# Ніва

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 3667714

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 37 (1844) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 15 ВЕРАСНЯ 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.

## НАЙВАЖНЕЙШАЕ – ЭКАНОМІКА

**МІКАЛАЙ ПЕТРУШКЕВІЧ, намеснік гандлёвага прадстаўніка ССCР у Варшаве, працуе толькі ад Беларускай Рэспублікі. Улетку г.г. некалькі разоў наведаў Беласточчыну, спатыкаўся з уладамі ваяводства і тутэйшымі бізнесменамі. Гаворка ішла, галоўным чынам, пра эканамічныя сувязі паміж БССР і нашым рэгіёнам. Пасля адной такой сустрэчы спадар Петрушкевіч даў інтэрв'ю „Ніве".**

*—Скажыце, калі ласка, як Вы бачыце перспектыву развіцця гандлю паміж Беларуссю і Польшчай?*

—Пашырэнне сувязяў у эканамічным плане гэта галоўная задача маёй працы. Зацікаўленне гандлёвымі кантактамі ёсць з абодвух бакоў. Польшча хоча прадаць свае прадукты, перш за ўсё сельскагаспадарчыя, а Беларусь хоча іх купіць. Выхадам на беларускі рынак вельмі цікавяцца польскія фірмы (у мяне па 5 — 7 дэлегацый кожны дзень). Таксама прыязджаюць прадстаўнікі ад нашых фірмаў. Арганізуюцца ўрэшце сумесныя польска-беларускія суполкі па вытворчасці і перапрацоўцы тавараў.

*—Цяперашні разлік — у доларах, — спараджае розныя цяжкасці (між іншым, недахоп долараў у савецкага партнёра). Усё часцей гавораць пра абмен на прынцыпах бартэру — тавар за тавар. Польшча хоча прадаць сваё збожжа, бульбу, мяса, а што прапануе беларускі бок?*

—Купляй збожжа ці бульбы, можа, мы не надта будзем зацікаўлены. На сённяшні дзень нам патрэбны цукар і харчы для дзяцей (розныя фруктовыя сокі). Калі гаварыць аб прамысловых таварах, гэта будзе абутак, адзенне, трыкатаж. Што мы можам даць узамен? Я ўжо гаварыў на сустрэчы — рэспубліка дыспануе багатым асартыментам такіх тавараў, для прыкладу: тэлевізары, халадзільнікі, гадзіннікі, веласіпеды, матацыклы, прадукты хімічнай прамысловасці, трактары, сельскагаспадарчыя машыны і гэтаму падобнае. Але тут мусіць быць захаваны прынцып зацікаўлення. Калі нам сёння патрэбны цукар, можам за яго аддаць любыя тавары. Не дамо іх за нешта малаважнае, напрыклад, за нейкі відэамагнітафон.

*—Вельмі моцным бар'ерам ва ўзаемных кантактах з'яўляецца шчыльная мяжа, якая можа знеахвоціць нават найбольш настойлівых гандляроў. Ці ў бліжэйшай будучыні прадбачваюцца нейкія змены, аблягчэнне мытнай працэдуры?*

—Я не ўпаўнаважаны рабіць нейкія

( Працяг на стар. 4 )



Беласток - фрагмент вуліцы Кастуся Каліноўскага. *Фота Я. Целушэцкага.*

*****************************************************************************

# БЕЛАРУСАМ ІСЦІ РАЗАМ

Калі хто з шаноўных чытачоў захоча даведацца, што сп. Яўген Мірановіч пабачыў коса ў маіх заўвагах, змешчаных у „Ніве" ад 7.07.1991 пад загалоўкам „Гледзячы збоку", без цяжкасці пераканаецца, што гэта нішто іншае як мая асабістая рэакцыя на нахабнасць і агрэсію ў публічнай палеміцы, з якіх бы крыніц яна не выцякала, што выклікае нікому непатрэбныя сваркі і дэзінтэграцыю беларускага асяроддзя ў Польшчы ва ўмовах неабходнасці асаблівай кансалідацыі. Мае заўвагі, аснаваныя на канкрэтных здарэннях ці на прэсавай інфармацыі, пазбаўлены абагульненняў, а тым больш зневажання каго-колечы, чаго, на жаль, не ўсцярогся сп. Яўген Мірановіч у сваім артыкуле „Куды ісці беларусам?" („Ніва" ад 11.08.91). Апрача іншых абагульненняў, згуртаваў ён у адно ананімных: „рускіх украінцаў", „тытанаў працы",„сапраўдных беларусаў", „сапраўдных хрысціян", „сапраўдных украінцаў", словам, цэлы разрэз грамадства Беласточчыны, каб назваць іх дэмагогамі, аўтарамі хлусні ці свіннямі, што адважыліся выявіць погляды, супярэчныя з перакананнямі аўтара. Як бы не назваць тых „злачынцаў", то пералік іх паказвае на фактычную паўсюднасць крытыкі, але хіба не ідэі дэмакратычнага аб'яднання, а толькі, можа, метадаў яе ажыццяўлення. Можна сумнявацца, ці прыменену ў гэтым выпадку сп. Мірановічам форму палемікі можна назваць, як ён кажа, толькі „вострай", але пэўнае, што яна, хоць можа каго і разгневае, то, аднак, нікога не пераканае.

Думаю, што не без падставы сп. Мірановіч паўтарае за іншымі, што БГКТ было інвігілявана ПАРПам і дзяржаўнымі органамі бяспекі. У дзяржаве, зблiжанай па свайму характару да паліцэйскай, праўдападобна, гэта непазбежна, тым больш у адносінах да нацыянальнай меншасці. (Нельга забываць, што статус меншасці і далей да канца не выяснены). Аднак, паслугоўваючыся пугачом ПАРП і СБ у той татальнай, у сэнсе бескампраміснай, крытыцы БГКТ, варта мець на ўвазе, што можна закрануць у нейкім сэнсе амаль кожнага свядомага беларуса з пакалення тых гадоў, што быў членам Беларускага таварыства — адзінай беларускай грамадскай арганізацыі таго часу, ды абрыдзіць наогул удзел у перасвараным грамадскім жыцці. Тым большая крыўда наносіцца тым сумленным дзеячам, што нягледзячы на ўмовы, у якіх яны дзейнічалі, усё ж такі дабіліся не мала добрага для беларускай культуры.

Нельга згадзіцца са сцвярджэннем Я. Мірановіча, што БГКТ было падарункам Гамулкі, незалежным ад пажаданняў саміх беларусаў. Вярнуўшыся толькі што з няволі са сталінскіх „особых трудовых исправительных", а быў пачатак 1957 г. (прабачце за асабістую рэфлексію), я захапляўся дзейнасцю самаахвярных, маладых тады грамадскіх дзеячоў і студэнтаў, што з упартасцю абівалі парогі ўсім магчымым інстанцыям, дабіваючыся стварэння беларускай грамадскай арганізацыі, карыстаючы з кароткай „адлігі" ў палітычным рэжыме дзяржавы. Дасягнутыя імі поспехі мелі адназначную ацэнку грамадства.

Усё гэта не змяняе факт неабходнасці шукаць новыя формы грамадскага жыцця ў сучасных умовах. Несумненны выхад у праўдзівай дэмакратычнай арганізацыі. Не дзіва, што людзі так пільна сочаць за БДА. На самай справе абнадзейвае заангажаванне групы маладых, здольных, адукаваных інтэлігентаў, у тым ліку студэнтаў. Незалежна ад іх інтэлектуальнай вартасці вядома, што прывілеяй маладосці з'яўляюцца эмоцыі, і накідванне гэтым маладым, вартасным людзям стылю дзеяння, прасякнутага сваркамі і ўзаемнымі зняважлівымі, дабру не паслужыць (ды хто ведае, ці не з'яўляецца тормазам росту па-пулярнасці арганізацыі).

Калатаннем у адчыненыя дзверы было б даказваць, што маторам дзеяння кожнай арганізацыі, а тым больш палітычнай партыі, з'яўляецца яе эліта — група людзей, інтэлектуальна селектыўная, з ініцыятывай, чаго нельга адмовіць і эліце БДА. Аднак, цяжка згадзіцца з поглядам, што ў нашых умовах палітычная, а тым

( Працяг на стар. 4)




## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

— 54 —

Бадай што на другім месяцы, у сэнсе дапамогі ў будове Беларускага музея, пасля амерыканскіх беларусаў, трэба паставіць канадскую беларускую эміграцыю, а на трэцім — аўстралійскую. З дапамогай гэтай астатняй быў у мяне звязаны адзін клопат. Некалькі гадоў таму назад аўстралійскія беларусы прыслалі каля двухсот сваіх долараў не на банкавы рахунак музея, а на маё прозвішча. І што аказалася? А тое, што спатрэбілася вельмі многа захадаў, каб гэтыя аўстралійскія долары, прысланыя на прыватны адрас, перавесці на амерыканскія долары і на рахунак музея.

Давялося мне з Майсенем многа гадзін хадзіць па беластоцкіх банках, каб правесці гэтую аперацыю. Усё-такі неяк удалося справу аформіць, з тым, аднак, што з уласнай кішэні мусіў я заплаціць т.зв. маніпуляцыйныя кошты. Меў я пэўныя цяжкасці з пераводам на маё прозвішча каля сарака фунтаў, прысланых беларусам з Англіі Кажаневічам. І таму я звяртаўся да ўсіх знаёмых і незнаёмых яшчэ эмігрантаў, каб не прысылалі грошай на маё прозвішча і на мой адрас. Намнога працай уплачваць іх на банкавы рахунак Беларускага музея. Тады не будзе ніякіх праблем. Можа хтосьці падумаць, што я маю прэтэнзіі да беларусаў з Аўстраліі і да спадара Кажаневіча. Так яно не ёсць. Наадварот, я ўдзячны ім, што аднесліся да мяне з даверам. Аднак, прапаную тут шлях найпрасцейшы і найлепшы.

Гаворачы аб дапамозе беларускай эміграцыі справе пабудовы музея, хачу заўважыць, што параўнаўча мала прыйшло грошай ад англійскіх беларусаў. Зразумела, што не намерваюся тут іх за гэта крытыкаваць ці асуджаць. Калі не памагаюць занадта, дык, значыць, занадта не могуць. У ніякім выпадку нельга ў гэтым бачыць злую волю ці скупасць.

Вельмі многія беларусы з Беласточчыны, а тым болей з БССР, асабліва тыя, якія ніколі на Захадзе не былі, думаюць, што беларускія эмігранты гэта міліярдэры, што многія з іх самі не ведаюць, колькі маюць грошай. Зразумела, што такі падыход да справы наіўны. Практычна ўсе беларускія эмігранты гэта людзі, якія жылі і жывуць з працы сваіх рук. Зразумела, што ў параўнанні з намі жывуць яны добра, аднак, гэта не значыць, што могуць яны жыць, не лічачы грошай, а тым болей грошы раскідаючы. Уся жыццёвая сістэма грамадзян Амерыкі ці Англіі гэта сістэма разумнага разліку і ашчаднасці. Без гэтага чалавек на Захадзе згіне. І трэба сказаць, што беларускія эмігранты дасканала гэта разумеюць і дзякуючы такому падыходу да жыцця жывуць добра, хаця не раскошна.

Дзякуючы ўсім эмігрантам за дапамогу пры пабудове музея, звяртаюся да іх зноў. Дапамажыце! Справа ў тым, што пабудова музея апынулася зноў у цяжкім становішчы. Без вашай дапамогі ўсё можа затармазіцца і закупорыцца. Дапамажыце, колькі хто можа. І кожнаму беларусу, які гэта зробіць, дзякую сардэчна ад імя Беларускага музея, які будуем для ўсіх беларусаў свету.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

*****************************************************************************




**З'езд народных дэпутатаў прыняў** у чацвер (5 верасня) усе праекты законаў, прапанаваныя прэзідэнтам СССР **Міхаілам Гарбачовым** і правадырамі дзесяці рэспублік. На практыцы абазначае гэта ліквідацыю існуючых структур цэнтральнай улады, таксама парламента, і згоду на ператварэнне СССР у канфедэрацыю суверэнных дзяржаў. Новы саюзны дагавор будзе падпісаны з тымі рэспублікамі, якія гатовы ўчыніць гэта зараз, а самі рэспублікі вырашаць, якую частку сваіх суверэнных правоў перададуць новаму „цэнтру". Да часу прыняцця новай канстытуцыі кіраўнічыя функцыі ў СССР выконваюць: Дзяржаўны савет (прэзідэнт СССР і правадыры рэспублік), часовы парламент і міжрэспубліканскі гаспадарчы камітэт (урад). З'езд народных дэпутатаў прыняў таксама Дэкларацыю правоў чалавека і грамадзяніна.

**Віцэ-прэм'ер Лешак Бальцаровіч нанёс афіцыйны візіт у Маскву**, у выніку яго было падпісана гаспадарчае пагадненне паміж Польшчай і Расіяй. Была створана эканамічная камісія, якая акрэсліць прынцыпы фінансавання ўзаемнага тавараабмену ў 1992 годзе. Да канца гэтага года Польшча плануе купіць у СССР нафту і газ на суму 200 — 250 мільёнаў долараў і паставіць на гэту суму харчовыя прадукты і лякарствы. У час візіту былі пацверджаны гаспадарчыя ўмовы з Украінай, Беларуссю, Латвіяй і Эстоніяй.

**Тэкст дэкларацыі аб падставах узаемных стасункаў паміж Польшчай і Беларуссю** ужо ўзгоднены і сама дэкларацыя ўжо гатова, каб падпісаць яе міністрамі замежных спраў абедзвюх краін,- сказаў дырэктар Консульскага дэпартамента Міністэрства замежных спраў **Яцэк Чапутовіч** на заканчэнне перагавораў у Мінску (больш дэталёвую інфармацыю чытайце на стар. 4).

**Закончылася пратэстацыйная акцыя ў Гарадскім камунікацыйным прадпрыемстве (МПК) у Беластоку.** Пасля судовага рашэння, якое пацвердзіла законнасць роспуску гарадскімі ўладамі МПК і стварэння дзвюх камунікацыйных суполак, у адносінах да бастуючых была прыменена сіла. На тэрыторыю дэпо ўвайшла паліцыя і вывела бастуючых працаўнікоў МПК за агароджу прадпрыемства. Частка з іх рашылася працягваць пратэст на вуліцы ў форме галадоўкі. 8 верасня адбыліся перамовы страйкавага камітэта і ўправы горада Беластока, у выніку якіх было падпісана пагадненне і спынена пратэстацыйная акцыя. Да 16 верасня будзе створана трэцяя камунальная камунікацыйная суполка на тых самых прынцыпах, што дзве раней створаныя.

**Інаўгурацыя школьнага года 1991/1992 у Сямяцічах** адбылася ў новапабудаванай школе н-р 3. Ва ўрачыстасцях прымалі ўдзел: віцэ-міністр народнай адукацыі **Анна Радзівіл**, епіскап Лодзінскі і Познанскі **Сымон**, біскуп Драгічынскай дыяцэзіі **Уладыслаў Ендрушук**, віцэ-ваявода **Аляксандр Усакевіч** і куратар **Пётр Літэрмус**. Абодва іерархі адправілі набажэнствы.

**У Белавежы праходзіць чарговы XXVI мастацкі пленер.** Арача польскіх мастакоў удзельнічаюць у ім жывапісцы з Літвы, Беларусі і Нямеччыны.

**Працягваецца следства ў справе чэрвеньскіх антыцыганскіх выпадкаў у Млаве.** Выяўлена шаснаццаць чалавек, падазроных у тым, што прымалі ўдзел у выпадках. Пяць чалавек арыштавана.

## ЗАКЛІК

Таварыства **ПАМОСТ** з радасцю вітае дэкларацыю незалежнасці Беларусі і Украіны. Верым, што ўжо неўзабаве незалежнасць нашых усходніх суседзяў станецца фактам.

Стаімо перад гістарычным экзаменам. Можам пераадолець глыбока закаранелы ўзаемны недавер, які раздзяляе нашы народы. Не ёсць абыякавым для далейшых лёсаў нашай краіны, ці мы будзем сярод тых, якія першымі прызнаюць незалежнасць Беларусі і Украіны, ці знойдзецца для нас месца паміж Аргенцінай і Албаніяй.

Таварыства **ПАМОСТ** звяртаецца да палітычных партый, грамадскіх рухаў і арганізацый, асабліва да тых, для якіх слова **САЛІДАРНАСЦЬ** не з'яўляецца толькі назвай прафсаюза, з заклікам публічна падтрымаць незалежную Беларусь і Украіну. Заклікаем палітыкаў і публіцыстаў фармаваць аблічча польскай палітыкі на меру часоў, якія ёсць і якія надыходзяць.

Галоўнае праўленне
Таварыства **ПАМОСТ**
[illegible] — старшыня
Збігнеў Прускі — член праўлення

Варшава, 28.08.1991 г.

## КАНДЫДАТЫ БЕЛАРУСКАГА ВЫБАРЧАГА КАМІТЭТА

31 жніўня 1991 года Акруговая выбарчая камісія ў Беластоку зарэгістравала акруговы спісак кандыдатаў у паслы Беларускага выбарчага камітэта ў Выбарчай акрузе н-р 25 — Беластоцкае і Сувальскае ваяводствы. У спіску гэтым 11 кандыдатур:

1. **Стахвюк Віктар**, 43 гады, акадэмічны настаўнік
2. **Ляшчынскі Васіль**, 44 гады, настаўнік
3. **Сельвясюк Валянцін**, 26 гадоў, прадпрымальнік
4. **Целушэцкі Міраслаў**, 33 гады, гаспадар
5. **Багроўскі Пятро**, 32 гады, прадпрымальнік
6. **Максімюк Аляксандр**, 25 гадоў, журналіст
7. **Швед Віктар**, 66 гадоў, літаратар
8. **Дамброўскі Васіль**, 33 гады, юрыст, настаўнік
9. **Лукошык Уладзімір**, 40 гадоў, гаспадар
10. **Клімюк Анна**, 33 гады, гандлёвец
11. **Крук Пятро**, 54 гады, тэхнік-механік

Акруговы спісак кандыдатаў у Сейм Беларускага выбарчага камітэта ў Выбарчай акрузе н-р 25 падтрымала сваімі подпісамі 20 267 выбаршчыкаў — на аснове 70-га Артыкула Выбарчай ардынацыі ў Сейм дало гэта Беларускаму выбарчаму камітэту магчымасць ставіць спіскі сваіх кандыдатаў у іншых выбарчых акругах (рашэнне Дзяржаўнай выбарчай камісіі Wyb.0100-3-Z/18/91). У сувязі з гэтым 2 верасня Беларускі выбарчы камітэт зарэгістраваў акруговыя спіскі кандыдатаў у паслы ў Акруговых выбарчых камісіях у Гданьску, Кашаліне, Ольштыне, Седльцах, Варшаве, Вроцлаве.

31 жніўня 1991 года Ваяводская выбарчая камісія ў Беластоку зарэгістравала кандыдата Беларускага выбарчага камітэта ў сенатары - **Яна Чыквіна**. Кандыдатуру Яна Чыквіна падтрымала сваімі подпісамі 3 424 выбаршчыкі з Беластоцкага ваяводства.

Дзе можна галасаваць на кандыдатаў Беларускага выбарчага камітэта?

На кандыдата Беларускага выбарчага камітэта ў Сенат Яна Чыквіна галасуем толькі ў Беластоцкім ваяводстве. На кандыдатаў Беларускага выбарчага камітэта ў Сейм галасуем у сямі Выбарчых акругах Польшчы:

н-р 25 — Беластоцкае і Сувальскае ваяводствы
н-р 22 — Гданьскае ваяводства
н-р 21 — Кашалінскае і Слупскае ваяводствы
н-р 23 — Ольштынскае і Эльблонгскае ваяводствы
н-р 26 — Сядлецкае і Бяльскападляшскае ваяводствы
н-р 1 — горад Варшава
н-р 11 — Вроцлаўскае ваяводства

Ва ўсіх выбарчых акругах спіскі кандыдатаў у паслы Беларускага выбарчага камітэта маюць аднолькавыя назвы і нумар — назва спіску **„Беларускі выбарчы камітэт" і нумар спіску 48**

**Аляксандр Максімюк,**
Прэсавы прадстаўнік БВК




* Першы тыдзень незалежнасці Беларусі.
* З дзённікаў Сакрата Яновіча.
* Пакража ў царкве ў Ялоўцы.
* Нашы кандыдаты ў Сейм.
* Навас ў справе цуду ў Белавежы.

## НАЙВАЖНЕЙШАЕ – ЭКОНОМІКА

( Працяг са стар. 1 )

заявы ў гэтай справе. Зразумела, гэта вельмі і вельмі дрэнна, калі нашы людзі стаяць на мяжы па некалькі сутак. Але я аптыміст і думаю, што мы гэтыя праблемы будзем вырашаць як найхутчэй. Рух на мяжы вельмі вялікі і нашы мытныя службы не паспяваюць з кантролем. Можа, трэба павялічыць лік пагранічных службаў, можа, адкрыць новыя пераходы, не ведаю, але нешта рабіць, безумоўна, трэба.

*—Да гэтай пары пра нейкія кантакты Беларусь — Польшча нават гаворкі не было. Былі сувязі Польшчы з Савецкім Саюзам, усе пытанні вырашаліся ў Маскве, а як цяпер гэта будзе выглядаць?*

—Нават сёння справы складваюцца ўжо па-іншаму (інтэрв'ю бралася да абвяшчэння Вярхоўным Саветам БССР незалежнасці рэспублікі — М.В.). Рэспублікі займелі большую самастойнасць. Напрыклад, сёння мы ўжо падпісваем дагавор паміж нашым беларускім урадам і цэнтрам аб знешняй эканамічнай рэгуляцыі. Магу сказаць, што гэты дакумент многае дазваляе нашай рэспубліцы. Самае галоўнае — права на ліцэнзіраванне прадуктаў, г.зн. вызначэнне патрэбнай іх колькасці для рэспублікі. Раней за гэтым трэба было кожны раз ехаць у Маскву. Падрыхтаваны таксама праект дагавору аб польска-беларускіх эканамічных зносінах, якi, спадзяюся, неўзабаве будзе падпісаны.

*— Вы ведаеце, што ў Беластоцкім ваяводстве жывуць беларусы. Ці не думаеце, што яны маглі б адыграць ролю маста, які спалучыў бы Беларусь і Польшчу, два суседнія народы?*

— Гістарычныя і геапалітычныя ўмовы так склаліся, што і па той, і па гэты бок мяжы жыве мешанае насельніцтва. У Беларусі многа палякаў, у Польшчы жывуць беларусы, але я лічу, што гэта не прычына для падзелаў. Лепш яднацца і супрацоўнічаць для агульнага дабра, як і павінны рабіць суседзі.

*—Якраз супрацоўніцтва, а не падзелы я меў на ўвазе. Для прыкладу, пры Беларускім дэмакратычным аб'яднанні ўзнік гаспадарчы гурт, які намагаецца завязаць кантакты паміж Беласточчынай і Беларускай Рэспублікай. Не паміж беларусамі з Польшчы і беларусамі з БССР, а паміж вашай рэспублікай і нашым рэгіёнам, у якім большасць — палякі. Я проста думаю, што беларусам з Польшчы лягчэй пераадолець некаторыя нават псіхалагічныя бар'еры ў кантактах з Беларуссю, чым палякам.*

— Я лічу, што перш за ўсё трэба супрацоўнічаць у эканамічным плане. Калі беларуская меншасць у Польшчы спрычыніцца да такога супрацоўніцтва, яе ініцыятывы трэба вітаць. Я з задавальненнем буду вам памагаць.

*—Дзякую за размову.*

**Інтэрв'ю ўзяў**

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## Свойскія малюнкі



*Аксюцічы.*
Мал. У. Петрука.

*********************************************************

## БЕЛАРУСАМ ІСЦІ РАЗАМ

( Працяг са стар. 1 )

больш дэмакратычная партыя можа абмежавацца адной элітай, без людской базы, у якой лакалізавалася б зразумелая тым людзям думка і ініцыятыва эліты, прынятая імі да ажыццяўлення (і гэта абсалютна не мусіць пужаць духам камуністычнай партыі). Дасягненне такога стану, аднак, абумоўлена неабходнасцю скансалідаваць кіраўнічыя слаі грамадства, здольныя разбудзіць зацікаўленне грамадзян.

Нельга недаацэньваць ініцыятывы БДА наконт стварэння для ўсіх супольнай Рады беларускіх арганізацый па прынцыпу партнёрства. Ці, аднак, на перасваранай глебе можна так адразу выгадаваць моцную здаровую культуру без папярэдняй культывацыі той глебы? Няма сёння іншай магчымасці, як толькі знайсці супольную мову і супольную дарогу да праўдзівай дэмакратыі. Ці гэта споўніцца, пакажа найбліжэйшае будучае.

**ЯНКА ЖАМОЙЦІН**

## ПАРТНЁРСКАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ

**Трэці тур польска-беларускіх перамоваў у Мінску закончыўся ў аўторак (3 верасня — рэд.) узгадненнем тэкстаў супольнай дэкларацыі аб добрым суседстве, узаемаразуменні і супрацоўніцтве..**

Дэкларацыя рэгулюе пытанні супрацоўніцтва паміж польскай і беларускай дзяржавамі паводле прынцыпаў раўнапраўнасці і пашаны для суверэнітэта, тэрытарыяльнай цэласнасці абедзвюх дзяржаў і няўмешвання ва ўнутраныя справы. Абедзве краіны акцэптавалі існуючую граніцу і заявілі, што ў будучым не будуць прад'яўляць тэрытарыяльных прэтэнзій.

У важнай для польскага боку праблеме меншасці бакі прызналі культурную, моўную і этнічную тоеснасць меншасці і іх права на свабоднае выказванне гэтай тоеснасці.

Бакі абавязаліся імкнуцца да паправы ўмоваў жыцця нацыянальных меншасцяў — беларускай у Польшчы і польскай — на Беларусі. Гарантавалі яны таксама свабоду выконвання нацыянальнымі меншасцямі рэлігійных абрадаў і выявілі волю аховы культурных помнікаў на сваёй тэрыторыі.

Беларускі бок прадставіў праект консульскай канвенцыі паміж Беларуссю і Польшчай і прапанову стварыць два консульствы — беларускі ў Беластоку і польскі ў Гродне.

**„Дэкларацыя ставіць польска-беларускія стасункі на новым узроўні і з'яўляецца поспехам абодвух бакоў"**, — сказаў пасля заканчэння перамоваў старшыня польскай дэлегацыі, дырэктар Консульскага дэпартамента Міністэрства замежных спраў Яцэк Чапутовіч.

**Уладзімір Каліцкі, Мінск** *(Gazeta Wyborcza, 5.09.1991)*

*********************************************************

## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

### ЛІТАРАТУРНЫ КРЫТЫК І ПУБЛІЦЫСТ

**II. Максім Багдановіч аб Беларусі**

З іншых літаратурна-крытычных твораў Максіма Багдановіча на тэму беларускай літаратуры і актуальныя тады з'явы, узнікшыя ў ёй, можна назваць артыкулы „Новый период в истории белорусской литературы" і „Забыты шлях".

У першым піша аб пачатку XX ст. як аб перыядзе, што прынёс у гісторыю беларускай літаратуры і культуры радыкальныя змены: рост нацыянальнай свядомасці, пашырэнне друкаванай літаратуры на беларускай мове. Крытык перш за ўсё падкрэслівае значэнне газеты „Наша ніва" ў фармаванні новай беларускай інтэлігенцыі, якой дасюль не было. Як заўважыў ён у „Новым периоде в истории белорусской литературы": „(...)у Беларусі культурны пласт насельніцтва складаецца, па-першае, з чыноўніцкага балота, дзе задаюць тон агульнаімперскія адкіды, якія робяць тут на нацыянальна-рэлігійным цкаванні кар'еры, па-другое, з польскіх нацыяналістаў, нарэшце, з яўрэйскай буржуазіі. Беларускай інтэлігенцыі не было, і яе неабходна было выпрацаваць. Гадавальнікам для яе і з'явілася „Наша ніва" (пераклад мой — Я. Т.). Рэдактары і супрацоўнікі гэтай газеты, як падкрэслівае аўтар, людзі, якія выраслі ў народзе, ад народа не адарваліся, ім блізка псіхіка народа і таму іх праца была прадуктыўнай якраз у гэтым асяроддзі.

Немалую ўвагу звяртае Багдановіч і на новыя, яркія прозвішчы ў адраджаючайся літаратуры: Сяргея Палуяна, які пакінуў па сабе невялікую літаратурную спадчыну (паканчыў сваё жыццё самагубствам, калі яму было 21 г.), але „тое нямногае" „(...) адносіцца да ліку лепшых здабыткаў беларускага друкаванага слова"; Ядвігіна Ш. — пісьменніка з акрэсленай скрышталізаванай індывідуальнасцю, асяродкам творчасці якога з'яўляюцца невялікія апавяданні, мэта якіх — рашэнне жыццёвых праблемаў, якое-небудзь павучэнне ў духу народнай мудрасці.

У 1915 г. Багдановіч піша артыкул „Забыты шлях", прысвечаны пытанням развіцця беларускай народнай культуры. Кожная развітая літаратура выказвае склад характару думкі і пачуццяў свайго народа. Каб літаратура і мастацтва сталі народнымі па зместу і форме, трэба, — як сцвярджае Багдановіч, — глыбока вывучаць наогул многавяковую творчасць свайго народа. У выніку шматгадовых нагляданняў над творчасцю вядомых рускіх, украінскіх і беларускіх пісьменнікаў, улічваючы свой уласны вопыт, Багдановіч прыходзіць да вываду, што адным з асноўных шляхоў паглыблення народнасці літаратуры з'яўляецца творчае збліжэнне яе з нацыянальным фальклорам. Поруч з заклікамі да творчага выкарыстання фальклору, досыць актыўна адстойвае каштоўнасць стылізацый пад фальклор, неабходнасць стварэння вершаў „асаблівага" беларускага складу. Даследчык пытання „Максім Багдановіч і народная паэзія" Мікола Грынчык не прымае такога погляду, раскрывае яго абмежаванне, памылковасць. І ўсё ж, думаецца, Багдановіч прыйшоў да гэтых перакананняў не стыхійна, выпадкова, а цалкам свядома. Яны ў пэўнай

# НАШЫ КАРАНІ

## XVII. У ДУХОЎНАЙ СТАЛІЦЫ НА НЁМАНЕ

Князь Усевалад Давыдавіч, або як яго з-за круглага сіроцтва ласкава называлі сучаснікі — Усеваладка, паходзіў з убогенькага княства Давыдгарадоцкага, што знаходзілася на паўднёвай ускраіне беларускага Палесся. Ажаніўшыся з князёўнай Агафіяй, дачкою вялікага князя кіеўскага, магутнага Уладзіміра Манамаха, ён атрымаў у пасадзе за жонкаю абшырнае і заможнае княства Гарадзенскае, нядаўна адабранае ваяўнічым цесцем у полацкіх князёў.

Панаванне ў Гародні Усеваладкі і ягоных сыноў Барыса, Глеба і Мсціслава амаль праз усё XII стагоддзе — гэта залатыя часы ў мінулым Гарадзенскай зямлі, а значыць таксама паўночна-ўсходняй і ўсходняй частак сённяшняга Беластоцкага і Сувальскага ваяводстваў. Дзякуючы воінскай доблесці князёў і іхніх дружынаў ніхто не пасмеў тады нападаць на Гарадзеншчыну. У ёй прыбывае насельніцтва, бурліва развіваецца гаспадарка, набірае моцы духоўнае жыццё, паўстаюць шматлікія цэрквы не толькі драўляныя, але і мураваныя. Возьмем для прыкладу гэтак званую „Ніжнюю" царкву з XII стагоддзя, якая знаходзілася на замкавым дзядзінцы ніжэй Прачысценскай царквы з таго ж стагоддзя. „Ніжняя" царква была арыгінальнай, стройнай пабудовай. I яе канструкцыя, і муроўка і аздабленне — непаўторныя, не падобныя на іншыя тагачасныя ўсходнеславянскія храмы. Яна запачаткавала самабытны гарадзенскі стыль у храмавым будаўніцтве на беларускіх землях, які потым быў развіты будаўнікамі Прачысценскай і Барысаглебскай (Каложскай) цэркваў у Гародні. Гэты стыль пераналі будаўнікі храмаў у іншых землях Беларусі.

„Ніжняя" царква згарэла ў 1183 годзе ад грому, скляпенні і частка сценаў рухнулі. Пасля катастрофы яна не адбудоўвалася, але зямля праз 800 гадоў добра захавала яе рэшткі. Па іх вучоныя сцвярджаюць, што „незвычайна маляўнічы быў... знешні выгляд храма... У ніжняй частцы муру, паміж неатынкаванымі цаглінамі, былі ўстаўлены вялікія каляровыя палявыя камяні з натуральна гладкай або прыгожа адшліфаванай паверхняй, а ўверсе ззялі маёлікавыя пліткі, якімі былі абліцаваныя бакі выступкаў і вузкія зрэзы навугольнікаў, яны складалі розныя геаметрычныя ўзоры. Паміж цаглінамі былі ўстаўлены паліваныя місачкі. Завершаныя аркамі вузкія вокны ў верхняй частцы сценаў упускалі многа святла ў сярэдзіну храма. Дах быў пакрыты срабрыстай алавянай бляхай, а купал у выглядзе шлема — напэўна, пазалочанай". Гэты велічны, цудоўны храм узвышаўся, ззяў над Гародняй і яе ваколіцамі. „Унутраны дэкор храма таксама меў цалкам асаблівы характар: сцены не былі, як звычайна, пакрыты фрэскамі, але захоўвалі натуральны ружова-белы колер цэглы і расцёртай вапны, а на гэтым фоне выступалі круглыя адтуліны шматлікіх гаршкоў-галаснікоў, якія былі ўмураваны ў сцены дзеля змяншэння іх цяжару і павышэння акустычных уласцівасцяў гмаху. Затое багата быў аздоблены іканастас, а падлога выкладзена красачнымі маёлікавымі пліткамі жоўтага, зялёнага і карычневага колераў, яны на падкупальнай частцы складалі замысłаваты ўзор. Падчас археалагічных раскопак была выяўлена ў рэштках згарэўшага іканастаса вялікая колькасць яго металічных фрагментаў: іканастас увесь быў упрыгожаны іконамі і гафтаванымі заслонамі, акаваны рэзбленымі плітамі з пазалочанай медзі, абвешаны каляровымі шклянымі здобінамі ў медных рамках. Агульнае ўражанне дапаўнялі царкоўнае пазалочанае начынне і вісячыя свечнікі".

Усё гэта пацвярджае, што адначасна з царкоўным будаўніцтвам на Гарадзеншчыне тады развіваліся разнастайныя віды выяўленчага мастацтва: іканастас, жывапіс, разьба, мастацкая коўка і ліццё, ткацтва, ну і, вядома, таксама пісьменства, музыка і іншыя. Несумненна, што ў стварэнні гэтых каштоўнасцяў прымалі самы непасрэдны ўдзел і нашыя продкі — тагачасныя насельнікі сённяшняй усходняй Беласточчыны і Сувальшчыны.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# ШТО І ЧАМУ?

Шаснаццатага жніўня Яго Праасвяшчэнства Сава, архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі, прыняў Сакрата Яновіча, старшыню Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Гутарка працягнулася больш гадзіны часу і датычыла шырокага кола праблемаў духоўнага і свецкага жыцця беларускай нацыянальнай меншасці. Асаблівая ўвага была звернута на ўспамаганне грамадствам царкоўнага будаўніцтва.

Шаснаццатага і семнаццатага жніўня знаходзіліся на Беласточчыне міністры сельскай гаспадаркі і збожжавых прадуктаў Беларускай ССР Хведар Міралыцкі і Мікола Якушаў са сваімі экспертамі. Прыехалі яны па запрашэнні Гаспадарчага гурта Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. З удзелам кіраўніцтва Аб'яднання адбыліся гаспадарчыя іх перамовы з Беластоцкім ваяводам і ягонымі супрацоўнікамі, а таксама з бурмістрам Гайнаўкі. Высокія госці наведалі гаспадарoў у Махнатым, дзе адбылася ажыўленая гутарка непасрэдна на падворышчах. Пасля азнаёміліся яны са станам будовы Беларускага музея ў Гайнаўцы. Гэты важны для далейшага лёсу нашай нацыянальнай меншасці візіт закончыўся дэкларацыяй падпісання дамовы на куплю Беларускай Рэспублікай каля ста пяцідзесяці тысячаў тон збожжа і — дадаткова — іншых сельскагаспадарчых прадуктаў. Выпрацаваныя затым кантракты з мінскімі ды гродзенскімі фірмамі будуць рэалізаваць фірмы беластоцкіх беларусаў, якія з'ядналіся ў спомнены Гаспадарчы гурт БДА. Трэба дадаць, што беларускі бізнес у Беластоцкім краі тым адрозніваецца ад усяпольскага, што ягоны капітал працуе ў карысць эканамічнага і грамадскага ўздыму нашага насельніцтва.

Дваццатага жніўня кіраўніцтва Беларускага дэмакратычнага аб'яднання сустрэлася з Гардонам Уэтрэлам, дарадцам пасла Вялікабрытаніі ў Польшчы. Прынялі ў ёй удзел войты — арганізатары Злучнасці гмінаў „Нарва". Гутарка датычыла эканамічных праблемаў Беластоцкага краю, а таксама магчымасцяў дапамогі беларускай нацыянальнай меншасці.

Трыццаць першага жніўня Акруговая выбарчая камісія ў Беластоку зарэгістравала спісак кандыдатаў у Сейм з боку Беларускага выбарчага камітэта. Беларускі спісак падтрыманы быў подпісамі 20.267 выбаршчыкаў. Дзякуючы гэтаму Беларускі выбарчы камітэт мог зарэгістраваць сваіх кандыдатаў у сямі іншых выбарчых акругах, як: горад Варшава, Вроцлаўскае, Кашалінскае, Слупскае, Гданьскае, Ольштынскае, Эльблонгскае, Новасандэцкае, Сядлецкае і Бяльска-падляшскае ваяводствы. Кандыдатам у Сенат з'яўляецца Ян Чыквін. Варта адзначыць, што ніводзін з канкурэнтных камітэтаў, зарэгістраваных у Беластоцка-Сувальскай выбарчай акрузе, не назбіраў нават паловы той колькасці подпісаў, што Беларускі выбарчы камітэт.

**ЮРКА КАЛІНА,**
**САКРАТ ЯНОВІЧ**



*Палявая дарога.* *Фота У. Завадскага.*

****************************************************************************************************

ступені былі абумоўлены патрабаваннямі часу.

„Этнаграфізм у многіх літаратурах адыграў станоўчую ролю — як пачатковая форма народнасці. У найбольшай ступені характэрны для рамантызму ён заставаўся прагрэсіўнай з'явай і на раннім этапе развіцця нацыянальных літаратур. Для беларускай літаратуры, як вядома, гэтыя праблемы нацыянальнага самасцвярджэння былі асабліва актуальнымі, менавіта на пачатку XX ст. А ў тым, што веянні рамантызму ў тагачаснай беларускай літаратуры мелі месца, няма ніякага сумнення. Яна знаходзілася ў тых самых умовах, што і асобныя еўрапейскія літаратуры, у якіх патрэбы чытача ў гераічным, ва ўзмацненні веры і энтузіязму пад час нацыянальнага ўздыму, нацыянальных рэвалюцый на пэўным этапе больш поўна задаволіў менавіта рамантызм і перш за ўсё рамантызм", — сцвярджаюць аўтары „Исследования по славянскому литературоведению и стилистике" С. В. Нікольскі, А. Н. Сокалаў і В. Ф. Стахееў. Адсюль зразумела цяга да фальклору, да народнага светаразумення, паэтыкі вуснай народнай творчасці.

У артыкуле крытык неспадзявана заявіў: „Беларускіх вершаў у нас яшчэ не было, — былі вершы, напісаныя беларускай мовай" („Забыты шлях"). Сцвярджэнне катэгарычнае. Міхась Стральцоў заўважае, што яно магло мець нейкую долю перабольшвання, з разлікам на палемічнасць, але думка гэтая прасякае ўвесь артыкул і не лічыцца з ёю нельга. Катэгарычнасць пастаўленага Багдановічам пытання патрабавала пэўнасці ў адказе на яго. Адну з першых спроб вытлумачыць пазіцыю аўтара „Вянка" зрабіў Алег Лойка. На пытанне, памыляўся ці не памыляўся паэт у сваіх пошуках вершаў „беларускага складу", Алег Лойка адказвае ўпэўнена: так, памыляўся. Дадае: памыляўся „шчыра". Сваё сцвярджэнне ён аргументуе тым, што захапленне Багдановіча пачалося з пошукаў „арыгінальнага ўкладу ў сусветную паэзію", што нібыта Багдановічу прыйшло на думку шукаць гэтае „арыгінальнае" па-за ўсім тым, што пісаў сам паэт дагэтуль, што ўвогуле пісалі да 1915 г. Янка Купала, Якуб Колас і іншыя. „Пошукі „чыста" беларускага, — піша А. Лойка, — паэт пачаў, не ўлічваючы таго, што не можа быць нацыянальнай паэзіі па-за вопытам агульначалавечым".

Міхась Стральцоў сцвярджэнне Алега Лойкі не можа адобрыць. Шлях любой паэзіі — у арганічным творчым яднанні традыцый нацыянальных і агульначалавечых. Ён з гэтым згодны. Але не можа згадзіцца з тым, што гэтыя словы пярэчылі б канцэпцыі Багдановіча, для якога вопыт сусветнай паэзіі заўсёды быў адной з найгалоўнейшых крыніц узбагачэння нацыянальнага мастацтва. Гэта была якраз тая думка, з якой ён прыйшоў у беларускую паэзію. Аддзяляць нацыянальнае ад агульначалавечага Б агдановіч не думаў.

„Намагаючыся зрабіць нашу паэзію не толькі мовай, але і духам і складам твораў шчыра беларускай, — піша Багдановіч, — мы зрабілі б цяжкую памылку, калі б кінулі тую вывучку, што нам давала светавая (найчасцей еўрапейская) паэзія".

Яшчэ больш рашуча па данаму пытанню выказваўся Сяргей Палуян. Ацэньваючы свежасць і сілу новай беларускай паэзіі, ён сцвярджае, што „народ, каторы з самага пачатку свайго нацыянальнага жыцця мае змогу вырабіць толькі такую паэзію, зможа перамагчы ўсе перашкоды на пуціне свайго развіцця, зможа дагнаць на гасцінцы поступу тыя народы, што даўно ідуць далёка ўперадзе. Зможа многа чаго ўзяць ад іх і многа чаго даць ім. Зможа і сваю дань палажыць у скарбніцу ўсесветных культурных здабыткаў".

Сэнс выказванняў М. Багдановіча і С. Палуяна заключаецца ў тым, што пры стварэнні беларускай нацыянальнай паэзіі трэба выкарыстоўваць усё лепшае, што створана другімі народамі на працягу шмат вякоў. Узбагаціўшыся дасягненнямі сусветнай культуры, беларуская паэзія, у сваю чаргу, зможа ўзбагаціць сусветнае мастацтва.

Але Багдановіч папярэджвае і наконт другой крайнасці: нельга браць толькі чужое, не развіваючы свайго. Гэта калечыць народную душу. „Да таго ж адны жабракі могуць праз усё сваё жыццё толькі браць. Трэба ж і нам, беручы чужое, калі-некалі даць нешта і сваё".

**(Працяг будзе)**

**ЯНІНА ТРАЧУК**

## ПАКАЗАЛЬНІКІ

### ( НЕ )ТАЛЕРАНТНАСЦІ

*********************

Урадавая газета „Рэчыпаспалітая" (27 жніўня 1991) змясціла артыкул Барбары Вільскай-Душынскай, у якім аўтарка прадстаўляе і аналізуе вынікі сацыялагічнага доследу, праведзенага Інстытутам навуковай палітыкі і вышэйшых школ сярод студэнтаў (2466 асобаў) і вучняў сярэдніх школ (1767 асобаў) наконт іхніх адносін да іншародцаў — нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Апытанне датычыла адносін да наступных нацыянальнасцяў: беларусаў, цыганоў, чэхаў, літоўцаў, немцаў, рускіх, славакаў, украінцаў і яўрэяў. Падобнае апытанне было праведзена (сярод студэнтаў) у 1974 годзе (тады беларусы не былі ўзяты пад увагу), але некаторыя пытанні былі сфармуляваны крыху інакш, чымсьці ў гэтым годзе.

*Тое, што найбольш кідаецца ў вочы,* — адзначае Б. Вільская-Душынская — *гэта факт, што пасля амаль дваццаці гадоў, якія раздзяляюць гэтыя доследы, паўсюдная непрымірымасці з „чужынцамі" засталася нязменная, змяніўся аднак ейны кірунак, змяніўся, так бы мовіць, адрасат гэтай непрымірымасці.*

У 1974 годзе непрыязь звыш паловы студэнтаў выклікалі тры нацыянальнасці: немцы, яўрэі і украінцы. Няшмат асобаў дэкларавала сваю сімпатыю да іх. Далей у гэтай рубрыцы ксенафобіі стаялі цыганы — 45 % непрыязі. Сітуацыя радыкальна змянілася ў 1991 годзе. Прыбыло сімпатыі да немцаў і яўрэяў пры адначасным рэзкім падзенні „паказальніка непрыязі", затое гвалтоўна пагоршыліся паказальнікі цыганоў — 60 % непрыязі. Найбольшую сімпатыю выклікалі літоўцы і славакі. Беларусы — 16 % непрыязі і 13 % сімпатыі.

Надзвычай павучальныя і дзве наступныя рубрыкі, якія прыводзіць аўтарка артыкула. Першая з іх датычыць так званай „грамадскай дыстанцыі" — акцэптацыі „чужынца" ў трох акрэсленых сітуацыях: а) „чужынец" як таварыш на вакацыях; б) „чужынец" як член сям'і; в) „чужынец" як начальнік. Найбольшую засцярогу выклікае якраз гэтая трэцяя сітуацыя — такую магчымасць адмаўляе для беларусаў 39 % апытаных. Крыху меншую — сітуацыя б): для беларусаў 31 %. Сітуацыя а) — найлепш талераваная: правесці вакацыі з беларусам не хоча 23 % апытаных. Цыганы ва ўсіх трох сітуацыях стаяць найгорш — 60 % неталерантнасці.

З увагі на блізкія ўжо выбары варта запыніцца над трэцяй рубрыкай. Доклад тут датычыў магчымасці іншародцаў карыстацца некаторымі грамадзянскімі правамі: вывучэнне роднай мовы ў польскіх школах, удзел у багаслужбах на роднай мове, захаванне свае культуры і мовы, засяданне ў мясцовых уладах, засяданне ў Сейме. Супроць гэтага апошняга права выказалася каля 50 % апытаных у адносінах да ўсіх нацыянальнасцяў. Супроць засядання ў мясцовых уладах — ад 30 да 40 працэнтаў. Супроць вывучэння роднай мовы ў польскіх школах — у сярэднім 20 %. Параўнаўча талерантна апытаныя аднесліся да права ўдзельнічання ў багаслужбах на

( Працяг на стар. 7 )

## Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў

### 22. ЯК МЫ БЫЛІ Ў СТАТУІ СВАБОДЫ.

І хто б падумаў, што адлітую з медзі Статую свабоды падаравалі Нью-Йорку ў 1886 годзе французы?! Ад таго часу сталася яна для ўсяго свету не толькі сімвалам Нью-Йорка, але і наогул Амерыкі.

— Як гэта, быць у Нью-Йорку і не паглядзець Статую свабоды?! — сказала станоўча Юля Андрусішына.

Мы выбраліся туды ўпецярых. Наперадзе — спадар Антон Шукелайць, за ім — настаўніца з Мінска Валя Якімовіч і адтуль жа студэнтка Алінка Мяснікова, Валянцін Стэх з Вільні і я. Выпрашылі ехаць у той бок аўтобусам. Ідучы да аўтобуснага прыпынку, спадар Антон хоча паказаць нам па дарозе што можа. Дык павёў нас праз славутую Уол-стрыт і паказаў нам яшчэ больш славутую тамашнюю біржу. Нехта якраз фатаграфаваўся там каля ўваходу, трымаючыся за ручку дзвярэй і прытвараючыся заці-каўленым фінансістам.

У будцы на набярэжнай спадар Антон купіў нам білеты. Білеты давалі права ўвайсці на караблік, даплысць да астраўка, на якім стаяла Статуя свабоды, і аглядаць яе звонку і з сярэдзіны, а нават увайсці на самы верх; можна было агледзець таксама Музей эміграцыі, які знаходзіцца ў п'едэстале пад Статуяй.



*Від на Статую свабоды з набярэжнай.* *Фота аўтара.*

Здалёк, з берага, Статуя свабоды выглядала зусім маленечкая. На прыстані мы селі на караблік. Аж дзіў - спадар Антон, чалавек высо-каадукаваны і надта эрудыраваны, з азартам расказваў нам пра фірму, у якой ён калісьці працаваў рабочым, пра нейкія мадэлі, пра розныя здарэнні там, надаючы гэтай працы высокі ранг.

— Спадар Антон, а чаму Вы не хацелі працаваць у радыё?! — кідаю неўпапад у разгары яго апавядання.

— Бо не хацеў! — быццам назойлівай мусе, адбуркнуў ён.

Я выглянула за вакно. Статуя пачала расці на вачах і раптам вынырнула перад намі ва ўсёй сваёй велічы, вабячы нас вялізнымі вачыма-вокнамі ў галаве. Мы сышлі з карабліка і апынуліся на астраўку, каля самай Статуі свабоды.

Разгледзеліся навокал. Статуя ад старасці была зусім зялёная. Была агромністая, і проста не хацелася верыць, што гэта тая самая Статуя, якую я ведала раней з паштовак і розных іншых сімвалаў, ды якую аглядалі мы з берага.

— Ну што, ідзем наверх?! — гукнуў спадар Шукелайць.

Хаця па целе прайшлі дрыжыкі, большасць з нас хацела ісці. Мы маглі ехаць наверх і ліфтам, але гэта было б так, як бы насмажыць купленых на рынку, а не сабраных у лесе грыбоў. Кожнаму хацелася ўсё ж перамераць тых трыста, а мо і больш ступенек наверх, але з нашай адвагай было па-рознаму.

Мы ўвайшлі ў сярэдзіну Статуі свабоды і паволі рушылі па лесвіцы за натоўпам людзей. Лесвіца станавілася ўсё вузейшай, ісці было даволі цяжка. На пачатку можна было яшчэ зрэзыгнаваць — сыйсці ўбок на адной з пляцовак і паехаць уверх ці ўніз ліфтам. Але ў верхняй партыі лесвіцы дарогі назад ужо не было. Ліфт сюды ўжо не даходзіў. Трэба было ісці наперад, бо калі б хтосьці нават і

*****************************************************************

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

## МУЗЕЮ ТАРАШКЕВІЧА БЫЦЬ У РАДАШКОВІЧАХ

Блізіцца сотая гадавіна з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча. Ужо нават створаны па ініцыятыве Вярхоўнага Савета рэспублікі юбілейны камітэт.

Стогадовы юбілей — сур'ёзны повад для таго, каб узважыць і сказаць услых сабе, суседзям, а мо і свету, кім быў гэты чалавек для нас, які ўклад зрабіў ён у беларускую навуку, культуру, духоўнасць. А заадно і адказаць сабе на заўсёды, на жаль, нялёгкае для нас пытанне: ці ведаем спадчыну, запавешчаную нам. Наколькі разумна ёю распараджаемся і (о, маральны асялок) якая наша рэальная мера ўдзячнасці яе адышоўшаму творцу.

Яго жыццёвы час быў гранічна спрасаваны. У дваццаць пяць гадоў Тарашкевіч — аўтар першай граматыкі беларускай мовы. Дзякуючы яму да пазнання роднага слова, а гэта многім беларусам адкрыла шлях да свайго народа, да рэалізацыі сябе як асобы, далучылася не адно пакаленне суайчыннікаў.

Дваццацішасцігадовы Тарашкевіч — адзін з заснавальнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, праграма якой і сягоння сведчанне шырокага сацыяльна-палітычнага падыходу, клопату за дастойную будучыню свайго народа і рэальнае месца яго ў агульначалавечай сям'і.

У трыццаць год Тарашкевіч — лідэр беларускага парламенцкага прадстаўніцтва ў найвышэйшым органе Польскай Рэспублікі сойме.

Яшчэ ніколі датуль (пачатак 20-х гадоў) ніхто з высокай дзяржаўнай трыбуны так кампетэнтна і мужна не бараніў жыццёвыя інтарэсы беларускага селяніна, рабочага і інтэлігента. Соймавыя выступленні, прамовы Браніслава Тарашкевіча ў свой час — школа нацыянальнай свядомасці, самапавагі народа, а сёння — прыгожы помнік беларускай грамадскай думкі першай чвэрці нашага стагоддзя.

Найбольшым творам Тарашкевіча як палітыка, дзеяча вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі была стотысячная Беларуская сялянска-работніцкая грамада. У сярэдзіне 20-х не было ва ўсёй Еўропе такой масавай радыкальнай сялянскай партыі.

У трыццаць пяць год пачалася турэмная адысея Браніслава Тарашкевіча. Аднак турэмную камеру ў буржуазнай Польшчы беларускі вучоны, палітык еўрапейскай вядомасці здолеў ператварыць у поле змагання і незгасальнай творчасці. У астрогах Грудзёндза, Вронак, Горадня ён стварае новы варыянт „Беларускай граматыкі", адпаведны заходнебеларускім умовам, і здзяйсняе аграмаднiстую працу па перакладзе на мову свайго народа шэдэўраў сусветнай літаратуры — „Іліяды" Гамера і „Пана Тадэвуша" Міцкевіча.

У сорак адзін год Тарашкевічу нарэшце ўдаецца вырвацца з польскіх турмаў. У парадку абмену палітзняволенымі паміж СССР і Польшчай ён, горача вітаны як нязломны барацьбіт за высокія гуманістычныя ідэалы, дзеяч не толькі беларускага, але і міжнароднага вызваленчага руху, прыязджае ў Мінск.

Неяк здарылася, што палітыка і палітыкі цяпер наглуха адгарадзілі ego, вучонага-філолага, акадэміка АН БССР (яшчэ ў канцы 1928 г. пры заснаванні Беларускай Акадэміі навук ён, як прызнаны мовазнавец, быў абраны яе правадзейным членам), ад навукі. Давялося адразу ехаць у Маскву, дзе яму было прызначана месца працы ў заснаваным Камінтэрнам Міжнародным аграрным інстытуце. Адзін час Тарашкевіч загадваў аддзелам Польшчы і Прыбалтыкі гэтага інстытута. Абагульняў вопыт аграрных рухаў у замежных краінах, а паралельна рыхтаваў да выдання ў Белдзяржвыдавецтве „Іліяду". Калі разгарэлася грамадзянская вайна ў Іспаніі, душой памкнуўся туды, каб бараніць рэспубліку ад таталітарызму мяцежнага Франка. Здзейсніць мару аб зямлі для сялянства, на гэты раз не заходнебеларускага, а іспанскага, Тарашкевічу не давялося. Згінуў пад час рэпрэсій 1937-1938 г.г., што жалезным катком пракаціліся па краіне, у якую паверыў, за якую так стойка змагаўся ў Польшчы.

Не сказаць, што за час, які прайшоў ад пасмяротнай рэабілітацыі акадэміка Тарашкевіча (1957 г.), нічога не

вырашыў вярнуцца, дык не прабіўся б праз шчыльны натоўп народу, які заняў усю лесвіцу. А лесвіца ўсё вузела і ўрэшце, зусім вузенькая — адно як прайсці, — вілася вакол сталёвага стаўба.

Ногі млелі, кружылася галава і лепш было не глядзець уніз. Валі зрабілася кепска, але неяк усё ж яна дайшла да канца.

А канец нашага падарожжа быў у галаве Статуі. Калісьці, сказаў спадар Антон Шукелайць, можна было яшчэ ісці і ў руку, якая трымае факел, але цяпер забаранілі, баяцца, каб не адваліліся.

Мы выйшлі на даволі вялікую пляцоўку, якая месцілася ў галаве, і праз вочы-вокны глядзелі з адлегласці некалькіх кіламетраў на горад Нью-Йорк. Рабілі здымкі.

Сыходзіць уніз было куды лягчэй! З самага верху — пехатой, а пасля ўжо з'ехалі ліфтам. Мы былі крыху змучаныя, а па 75-гадовым „Шукі", як пяшчотна называюць спадара Шукелайця некаторыя, не было відаць ніякай стомленасці.

— А я заўсёды іду на самы верх, калі паказваю камусьці Статую свабоды, — сказаў ён без лішніх эмоцый і павёў нас паказваць Музей эміграцыі.

Назад вырашылі ехаць на метро. Спадар Антон купляе нам жэтоны (адзін, здаецца, каштаваў ці не паўтара долара), і мы спускаемся ўніз, да пояздоў.

Метро выглядае страшна! Быццам з найгоршага фільма. Старое і бруднае, як не падобна яно на новенькае мінскае метро! Нідзе ніякіх упрыгожанняў, ніякіх аздоб. Толькі дапатопныя, учарнелыя сцены.

І людзі здаліся мне такія ж. Больш не хачу ездзіць„ сабвэем"!

А пасля, вядома, абавязкова зайшлі яшчэ ў півярню „ Мак-Сорлейс" — любімую Антонашукелайцаву півярню.

*(Працяг будзе.)*

**АДА ЧАЧУГА**



*А гэта мы са спадаром Антонам.*

# НОВЫЯ ВЕРШЫ

## ДАНУТА БІЧЭЛЬ

x x x

Праз асінавае рэшата лістоты  
сонейка прасейваецца ў мох.  
Упарта мне пярэчыш:  
— Ну, чаго ты?  
Сваё мы вернем і не аддамо.

То нашы дзеці сонейка — вавёркі —  
маток праменьня блытаюць на сук.  
Тутэйшым верасьнем прагорклы сум  
клубком вясёлым пакаціўся з горкі.

Калі ня здолелі прыдумаць  
горшай кары —  
па дзьве бутэлькі толькі —  
горш, як немцы, —  
то нашы людзі нам нацэдзяць гары,  
якую цісную ў адпаведым месцы...

Яшчэ ня ўсё пакрадзена павертра.  
Яшчэ ня з пекла нам  
прыйшла павестка,  
але з савецкага ваенкамата.

Так надрываемся,  
але ня маем сьвята.

### ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „НІВЫ"

**Рэдакцыя „Нівы" выказвае сардэчную падзяку нашым замежным суайчыннікам, якія аказваюць фінансавую падтрымку нашаму тыднёвіку. За апошнія месяцы ахвяраванні ў выдавецкі фонд „Нівы" пастунілі ад наступных нашых чытачоў:**

1. **Зоя Смаршчок** з Гевер (Бельгія) — 100 доляраў,
2. **Надзея Барт** з Заўльгаў (Нямеччына) — 100 марак,
3. **Надзея Касмовіч** са Штутгарта (Нямеччына) — 100 марак,
4. **Хрысціна і Лявон Паплаўскія** з Таронта (Канада) — 50 доляраў.

Шчыра дзякуем!

Ахвяраванні ў выдавецкі фонд „Нівы" можна пералічаць на рахунак: **ZG BTSK, NBP 0/0 Białystok, 5021-3203-132 з прыпіскай: Фонд „Нівы".**

***********************************************************************************

зроблена для вяртання добрага імя беларускага вучонага і палітыка народу. У Мінску і Варшаве апублікаваны дзве манаграфіі, прысвечаныя жыццю і дзейнасці Б. Тарашкевіча. Асобна і, галоўнае, парэшце аб'ектыўна, навукова даследавана (зноў жа ў СССР і ў Польшчы) справа жыцця Тарашкевіча — Беларуская сялянска-работніцкая грамада. Тое-сёе зроблена і для вяртання спадчыны таленавітага вучонага і пісьменніка. У Мінску і ў польскім Ольштыне амаль у аднachacci выдадзены беларускі пераклад „Пана Тадэвуша", зроблены Тарашкевічам у 1931 г. у Гродзенскай турме. Падрыхтавана, знаходзіцца на стадыі другой карэктуры непаблякляе і праз гады публіцыстычнае слова Тарашкевіча. Беларускае савецкае мовазнаўства вуснамі сваіх аўтарытэтных прадстаўнікоў пацвердзіла нязменна высокае месца аўтара першай „Беларускай граматыкі для школ" у лінгвістычным беларусазнаўстве. Праўда, на жаль, да гэтага часу застаюцца няздзейсненымі абяцанні, і не адных толькі мовазнаўцаў, перавыдаць першынца беларускай граматы — „Граматыку Тарашкевіча", як па-бытавому звалася яна ў народзе. Але гэта, здаецца, таксама на парозе рэалізацыі. Зроблены першыя крокі да мемарыяльнага ўшанавання славутага суайчынніка. Устаноўлены дзве мемарыяльныя дошкі ў мясцінах, звязаных з жыццём і працай Тарашкевіча. У Вільні, на былой Віленскай 12, дзе ў 20-я гады была сядзіба ТБШ і месціліся рэдакцыі беларускіх газет, жыў адзін час Тарашкевіч, і ў Радашковічах. Пра Радашковічы гутарка і наш клопат асобныя. Справа ў тым, што з домам Сніткаў, з якога паходзіла жонка Б. Тарашкевіча Вера Андрэеўна, звязаны ці не найважнейшы перыяд у жыцці і дзейнасці Тарашкевіча. Тут ён стала бываў, месяцамі жыў на працягу 1923-1930 г... Дом Сніткаў, дом старога беларускага археографа і гісторыка, мясціна, якая так шмат значыла ў жыцці Тарашкевіча, пасля таго, як з яго выбралася мясцовая бальніца, аказаўся без нагляду. Прадстаўнікі радашковіцкай інтэлігенцыі, падтрыманыя пасялковай адміністрацыяй, сталі думаць пра дом як музей Тарашкевіча. Было прынята і адпаведнае рашэнне. Каб засцерагчы будынак ад паломак, расцягвання, па ініцыятыве Веры Андрэеўны як фактычнай спадкаемцы дома тагачасны старшыня пасялковага Савета Пустаход часова пасяліў у ім тры сям'і. Адна з іх праз нейкі час перабралася некуды на сталае месца жыхарства. Гатова перасяліцца на запэўненую ўладай ёй кватэру і другая сям'я, што ўцякла ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы са Слаўгарадчыны. А вось мясцовая жыхарка, у якой, дарэчы, у самім пасёлку ёсць напалам з мужам свой дом, Т. І. Рабушка, адвакат па прафесіі, загаспадарыла ў мяркуемым музеі Тарашкевіча грунтоўна, на свой лад. Абабіла ганак, высекла кусты і дрэўцы, мемарыяльную дошку перанесла ў другое месца, загадавала вялізную індычыную і трусіную гаспадарку. Дом музейнага прызначэння пазбаўляецца аўтэнтычнага асяроддзя, элементарна парушаецца яго экалогія. Пачынае хадзіць думка-чутка, што дом стары, аднаўляць яго нявыгадна, і музей Тарашкевіча лепш пабудаваць на новым месцы. Але ж такое рашэнне было б прамым парушэннем мемарыяльнасці, аўтэнтычнасці музейнага аб'екта. Дом трэба аднаўляць на яго адвечным месцы, каб там нават заставаўся адзін падмурак. Тым больш, што дом Сніткі — адзіны найбольш адпаведны і захаваны ў сваім прыжыццёвым для Тарашкевіча выглядзе. Тым больш, што ў роднай вёсцы Браніслава Тарашкевіча Мацюлішках, на Віленшчыне, на сядзібе бацькі вучонага, не засталося і знаку ад колішніх будынкаў. Да таго ж малая радзіма нашага вялікага земляка сёння ў межах Літоўскай рэспублікі.

Так што мемарыяльнаму музею Браніслава Тарашкевіча быць толькі ў Радашковічах. Тут ёсць глеба, грунт сталай беларускай культурнай традыцыі. Пасялковыя ўлады разумеюць сутнасць праблемы адкрыцця музея Тарашкевіча. Гатовы ўзяць на сябе долю клопату, звязанага з яго рэалізацыяй. Слова за Міністэрствам культуры, за грамадскасцю.

**А.МАЛЬДЗІС,**  
**старшыня гісторыка-мемарыяльнай камісіі СП БССР,**  
**Г. КІСЯЛЁЎ,**  
**намеснік старшыні,**  
**А. ЛІС,**  
**сакратар камісіі,**  
**Г.КАХАНОЎСКІ,**  
**старшыня рады Таварыства краязнаўства Беларусі.**

**(„Літаратура і Мастацтва" Н-р 28 (3594) ад 12 ліпеня 1991 г.)**

## ПАКАЗАЛЬНІКІ (НЕ) ТАЛЕРАНТНАСЦІ

**( Працяг са стар. 6 )**

роднай мове (супроць — 5-7 %) і захавання мовы і культуры (супроць —8-12 %).

Аўтарка адзначае, што студэнты наогул па ўсіх вышэй згаданых паказальніках былі меншымі ксенафобамі, чымсьці іхнія малодшыя калегі з сярэдніх школ. Гэта пацвярджае правіла, піша Б. Вільская-Душынская, што нета-лерантнасць змяншаецца, калі расце адукаванасць.

Дай Божа, дай Божа...

І ўсё-такі, калі задумаемся над гэтымі лікамі і калі ўсвядомім сабе, што маем дачыненне з настроямі сярод маладых людзей (як бы яно ні было — з настроямі будучыні нацыі), то робіцца неяк страшна...

**(ям)**

# НЕВЯДОМАЯ КРЫНІЦА

## ДА ГІСТОРЫІ ІКОНЫ ЖЫРОВІЦКАЙ БОЖАЙ МАЦІ



Гісторыя іконы Жыровіцкай Божай Маці мае некалькі распрацовак. Некаторыя з іх былі выдадзены друкам. Большасць манускрыптаў захоўваецца ў савецкіх архівах і бібліятэках. У архіве Ленінградскага аддзялення Інстытута гісторыі АН СССР у Ленінградзе захоўваецца рукапіс пад загалоўкам **„Образ Чудотворны Пресвиятой Богородици в Жировицах"**, аўтарам якога быў манах Жыровіцкага манастыра **Язафат Дубянецкі**. Выводзіўся ён са шляхецкага роду ў віленскім павеце, а ў загалоўку ўспомненага рукапісу акрэсліваецца ён наступным чынам: *„Всечестный Отец Иосафат Дубенецки ЦЗСБВ Казнодзея и Пенитенцият Жыровицки"*. Быў у 1652 — 1654 гадах жыровіцкім архімандрытам, а потым ігуменам манастыра ў Полацку.

Гісторыя цудатворнай жыровіцкай іконы была падрыхтавана на аснове захоўваемых у манастыры пісьмовых рэляцый памёршых жыровіцкіх манахаў. У аснову працы Язафата Дубянецкага лёг рукапіс **„Гистория або повесть"**, які прадстаўляў легенду аб узнікненні цэнтра і самога культу цудатворнай іконы Божай Маці. „Гистория або повесть" была фрагментам рукапіснага зборніка з пачатку XVII стагоддзя, які складаецца з невядомай рэдакцыі супрасльскага палемічнага твора **„Списание против Лютров"**. Гэты рукапіс быў нанава адрэдагаваны ў Жыровіцкім манастыры ў 1622 годзе. Яго аўтарам быў манах Феадосій. Жыровіцкі манах у заканчэнні працы „Гистория або повесть" падае крыніцы, на аснове якіх напісаў яе.

*„Феодоси иеромонах закону святого Василия сознаваю тым писанием руки моее власное жем власне так от многих люде о тым образе святом слышал яко се тут гистория писала.*

*Я Исидор Иванович свещенник люшневски будучи прошоны от чесного отца Андрея Офанасовича Бегуновского которы през старост свою великую не могучи свои подписат при памети еднак еще будучи вызнавал предо мною и пред чесным отцем Феодосием иеромонахом закону святого Василия котори его о всем выпытовал же все так власне было яко се тут гистория о образе жировицком пречесто Богородици выписана. Для чого то все и я зознаваю пишучи рукою моею власною року 1622 месяца генвара 18 дня.*

*Я Варфоломей Поликарпович пред тым будучи свещеником жировицким лит 50 а тепер ополским сознаваю тым писанием, жем так власне от продков моих слышал о образи светом жировицком яко сия тут гистория писала."*

Узнікненне рукапісу „Гистория або повесть" адбылося, мусіць, па ініцыятыве новага ўладальніка жыровіцкіх маёмасцей смаленскага кашталяна Яна Мялешкі, які пасля прыняцця ў 1613 годзе уніі пацікавіўся мінулым цудатворнай іконы Божай Маці. Мінулым іконы быў зацікаўлены таксама Леў Сапега — маршалак Вялікага княства Літоўскага, дабрачынец і ахвяравальнік Жыровіцкага манастыра. Бескампрамісныя адносіны былога жыровіцкага ігумена, полацкага архіепіскапа Язафата Кунцэвіча да праваслаўных выклікалі пратэсты нават католікаў. Леў Сапега як канцлер Вялікага княства Літоўскага неаднойчы асуджаў дзейнасць уніяцкага епіскапа.

Дэталёвы аналіз рукапісаў манахаў Феадосія і Язафата Дубянецкага дазваляе меркаваць, што „Гистория або повесть" была асновай для напісання распрацоўкі „Образ Чудотворны Пресвиятой Богородици в Жировицах". Язафат Дубянецкі папоўніў гісторыю жыровіцкага санктуарыя здарэннямі пасля 1622 года. Прадставіў таксама вядомыя яму апісанні цудоўных здарэнняў з 1622 — 1653 гадоў. Ягоную распрацоўку віленскія базыльяне выдалі друкам у 1653 годзе. Надрукаванне гісторыі жыровіцкай іконы (аб'ём тры карткі) адбылося пасля некалькіх важных здарэнняў: пасля пабыўкі ў 1651 г. у манастыры караля Яна Казіміра, пасля надання ім 21 чэрвеня 1652 г. прывілею для манастыра, пасля ўзросту ліку цудоўных з'яў і вылячэнняў перад іконай. Распрацаванне гісторыі культавага цэнтра ва ўмовах узрастаючай яго папулярнасці было проста неабходным.

Знойдзены ў архіве Ленінградскага аддзялення Інстытута гісторыі Акадэміі навук СССР рукапіс з пачатку XVIII ст. з'яўляецца копіяй першай версіі надрукаванай у Вільні распрацоўкі. У сувязі з немагчымасцю непасрэдна параўнаць рукапіс з друкам, успомнены манускрыпт трэба залічыць да адной з нямногіх захаваных версій працы Язафата Дубянецкага. Распрацоўка „Образ Чудотворны Пресвиятой Богородици в Жировицах" на аснове працы манаха Феадосія выкарыстоўвалася як крыніца пры напісанні пазнейшых манаграфій жыровіцкага санктуарыя. Распрацоўкай Дубянецкага карысталіся мастакі пры маляванні фрэскаў у царкве Успення ПДМ у XVIII стагоддзі.

Крыніца, пра якую пішам, складаецца з некалькіх раздзелаў:

**Раздзел I:** Opisanie miejsca samych Żyrowic вясвятляе паходжанне назвы Жыровічы і акрэслівае месцазнаходжанне санктуарыя.

**Раздзел II:** Od kogo ten Obraz, jakim sposobem y kedy jest znaleziony прадстаўляе гісторыю з'яўлення іконы ў маёмасцях Аляксандра Солтана. Аўтар рукапісу прыводзіць у гэтым раздзеле гістарычныя факты паводле Kroniki polskiej... Мацея Стрыйкоўскага.

**Раздзел III**: Czemu w tey puszczy a nie na innym mieyscu Cerkiew jest zbudowana? разглядае фундацыю царквы маршалкам Вялікага княства Літоўскага Янам Солтанам.

**Раздзел IV:** O pogorzeniu cerkwi y o zniknieniu z niey tego Obrazu Świętego прадстаўляе цудоўнае адшуканне іконы і яе лёсы да 1622 года.

**Раздзел V:** O kamieniu паказвае ўздараўляльную моц каменя, на якім была знойдзена ікона Божай Маці. Пішацца ў ім пра ўфундаванне Стэфанам Гільхенам царквы на месцы гэтага каменя. У сапраўднасці фундатарам Богаяўленскай царквы быў Ян Солтан. Пабудова яе пачалася ў 1561 годзе. Станіслаў Гільхен мог фінансаваць заканчэнне яе пабудовы або рамонт.

**Раздзел VI**: O cudach przy tym kamieniu прадстаўляе, між іншым, пераход з кальвінізму ў каталіцызм падкаморага троцкага Хрыстафора Алендскага ў 1618 годзе пад уплывам асабістых перажыванняў пры „цудоўным камені".

**Раздзел VII:** Opisanie Obrazu jaki jest y co ma w sobie з'яўляецца апісаннем цудатворнай іконы Божай Маці. Рукапіс Язафата Дубянецкага канчае заклік да вернікаў аддавацца ў апеку жыровіцкае іконы. Распр

Распрацоўка „Образ Чудотворны Пресвиятой Богородици в Жировицах" з'яўляецца каштоўным літаратурным помнікам гэтага перыяду. Напісана яна жывым і вобразным спосабам з прымяненнем цытатаў са Святога Пісання. Твор жыровіцкага манаха можна залічыць да палемічнай гістарычнай распрацоўкі, напісанай з мэтай паказаць працягласць актуальнага рэлігійнага характару цэнтра. Яго гісторыя мела даказаць прыналежнасць жыровіцкага санктуарыя да Уніяцкага касцёла. Твор напісаны быў характэрнымі для гэтага перыяду мовай і правапісам. Гэты фактар павінен выклікаць зацікаўленне працай Язафата Дубянецкага не толькі гісторыкаў царквы.

**АНТОСЬ МІРАНОВІЧ**

********************************************************************

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

### СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ.

**6.Антонімы.1**

**Антонімы** — гэта словы з супрацьлеглым значэннем (ад грэч. anti — супраць і onyma — імя), напр. *малы — вялікі, добры — дрэнны, нядобры, праўда — няпраўда, хлусня, мана.* З'ява проціпастаўлення слоў з супрацьлеглым значэннем называецца **антаніміяй**.

Антонімы выражаюць супрацьлеглыя:

— прыметы ці ўласцівасці: *вясёлы — сумны, блізкі — далёкі, цікавы — нецікавы, нудны*;

— прадметы і паняцці: *сябра — вораг, раніца — вечар, вернасць — здрада*;

— дзеянне ці стан: *выключыць — уключыць, выздаравець — захварэць, згубіць — знайсці.*

У залежнасці ад структуры антонімы падзяляюцца на:

— **аднакарэнныя** (словы аднаго кораня, але з прыстаўкамі, выражаючымі супрацьлеглае значэнне): *праўда — няпраўда, радасны — бязрадасны, надводны — падводны, маральны — амаральны, ваенны — антываенны, мабілізаваць — дэмабілізаваць, наступленне — контрнаступленне*;

— **рознакарэнныя** (словы з рознымі каранямі): *багаты — бедны, гарачы — халодны, праўда — мана, хлусня, дэмакратычны — рэакцыйны, смелы — баязлівы, мяккі — цвёрды, памятаць — забываць.*

Словы з адным значэннем могуць толькі адзін раз уступіць у антанімічныя адносіны з іншымі словамі і ўтварыць з ім антанімічную пару, напр.: *гуманны— антыгуманны.* Часам, калі слова мае сінанімы, утвараецца антанімічны рад, напр.: *праўда — няпраўда, мана, хлусня.*

Мнагазначныя словы могуць уваходзіць у розныя антанімічныя адносіны і, у сувязі з гэтым, утвараць розныя антанімічныя пары, напр.: *лёгкі чамадан — цяжкі чамадан, лёгкі мароз — моцны мароз, лёгкія адносіны да жыцця — сур'ёзныя адносіны да жыцця.*

Часам бывае так, што словы, якія не з'яўляюцца супрацьлеглымі па сэнсу, у пэўным кантэксце набываюць супрацьлеглае значэнне. Такога тыпу словы называюцца **кантэкстуальнымі антонімамі**, напр.: *Я з маленства іду шляхам жыцця, а не вайны*(К.) У гэтым сказе *вайна* супрацьпастаўляецца *жыццю.* Калі адкінуць кантэкст, кожнае з гэтых слоў уступае ў антанімічныя пары з зусім іншымі словамі: *жыццё — смерць, вайна — мір.*

„Антонімы шырока выкарыстоўваюцца ў мове мастацкай, публіцыстычнай і навуковай літаратуры, у вуснай народнай творчасці і жывой гутарцы, калі неабходна апісаць такія прадметы або з'явы, якія па сваіх якасных, колькасных, прасторавых, часавых і іншых прыметах з'яўляюцца супрацьлеглымі. У такіх апісаннях асабліва выразна выяўляецца сэнс кожнага слова з супрацьлеглым значэннем, дзякуючы чаму антонімы выконваюць вобразную функцыю. На выкарыстанні антонімаў заснаваны такія стылістычныя прыёмы, як антытэза і аксюмаран."2

**Антытэза** (ад грэч. antithesis — супрацьстаўленне) — стылістычны прыём, заснаваны на ярка выражаным супастаўленні кантрастных з'яў і паняццяў, напр.: *Родная зямля — маці, чужая старонка — мачаха.* (Прым.),

*Любоў і лад узвышаюць,*
*вядуць за далягляд.*
*Варожасць і злосць прыніжаюць,*
*адкідаюць назад.* (Вярц.)

**Аксюмаран** ці **аксімаран** (ад грэч. oxymoron — дасціпна-бязглуздае) — стылістычны прыём, заснаваны на спалучэнні такіх слоў з супрацьлеглым значэннем, якія абазначаюць лагічна несумяшчальныя паняцці, напр.: Такаровец выглядаў як *жывы труп* і толькі салопаў асавелымі вачыма. (Бяд.),

Вазы адскрыпелі ў даліне.
І стаў *аглушальны спакой.* (Панч.)3

———————

1 Літаратура: В.П. Красней, Лексіка і фразеалогія беларускай мовы, Мінск 1982, с. 60 - 66;

В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 32 - 37;

В.П. Красней, Грані слова, Мінск 1986, с. 78 - 86.

2 В.П. Красней, Грані..., с. 83.

3 Там жа, с. 84 - 85.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Дзяўчаткі з Навасёлак, Петрыкаўскага раёна, Гомельскай вобласці.* *Фота З. Яўтуховіча.*

*****************************************************************

ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК...

**Раздзел 4. МЫШКА ПІК-ПІК І РОВАРЧЫК**

Аднойчы ночай мышка Пік-Пік вылезла з норкі і пачала бегаць па кватэры і шукаць, што паесці. І знайшла на стале цэлы пачак пернікаў. Мышка з'ела адзін пернік, другі, трэці, чацвёрты, пяты, шосты... А сёмы пернік застраў у яе ў горле, так што мышка аж заперхала.

„Кепскія справы, — падумала мышка Пік-Пік. — У мяне няма апетыту. Я перастану есці і пахудзею. Трэба ратавацца. Апетыт прыходзіць ад прагулак. Асабліва на ровары. Пакатаюся ж я на ровары!"

І мышка Пік-Пік пабегла да трохколавага роварчыка дзяўчынкі Веранічкі і паспрабавала на ім паехаць.

Але Пік-Пік не ўмела ездзіць на роварчыку, і ён яе не слухаўся. Тады мышка Пік-Пік раззлавалася, саскочыла з роварчыка і моцна-моцна яго папхнула, так моцна, што ледзь паспела на яго ўскочыць.

І столькі злосці было ў мышкі, калі яна штурхала роварчык, што ён адарваўся ад падлогі, і вылецеў праз вакно на вуліцу.

„Ой-ёй-ёй!" — падумала мышка Пік-Пік. — Гэта зусім не роварчык. Гэта самалёцік. Ён падмануў мяне, прыкінуўся роварчыкам..."

Мышка ляцела так хутка, што пакрывалася лёдам ад ветру і ад страху.

І тут роварчык абагнаў варону. Яна ляцела сабе, прагульвалася, і раптам — вялізная жалезная птушка, ад якой нясецца: „Пік-пік! Пік-пік!"

Варона нават прытармазіла з перапуду, але пасля вырашыла высветліць, што гэта тут лётае. Прыбавіла ходу варона, і ўбачыла трохколавы роварчык, да якога прычапілася маленькае абледзянелае стварэнне з пісклівым голасам.

„Недзе я ўжо бачыла гэты роварчык, — падумала варона. — Гэта роварчык дзяўчынкі Веранічкі. Ай-яй-яй, непарадак!"

І варона схапіла роварчык за нешта доўгае і тонкае, што матлялася ззаду.



Гэта быў хвост мышкі Пік-Пік. Варона панесла роварчык проста да вакна дзяўчынкі Веранічкі.

Бумс! Са страшэнным грохатам мышка і роварчык уваліліся ў кватэру.

Пакуль мама, тата і Веранічка прачыналіся і здагадваліся, чаму прачнуліся, мышка пабегла ў норку, залезла пад коўдру і пачала адаграваціца.

Лёд таяў на мышцы і выцякаў з-пад шафы ручайком. Мама выцірала яго, а ён усё цёк і цёк.

А мышка Пік-Пік думала: „Як шкада! Я нагуляла такі добры апетыт, і ён прападае дарма! Ах, трэба было з'есці ўсе пернікі адразу, без апетыта. А то што толку! Апетыт ёсць — пернікаў няма. Гэта горай, чым пернікі — без апетыту..."

Так мышка Пік-Пік думала, думала, і заснула.

*Працяг у наступным нумары.*

Аўтарка казак просіць чытачоў намаляваць прыгоды мышкі і яе сяброў і прыслаць у „Зорку". Чорна-белыя (найлепш, маляваныя чорным пісаком), будуць друкавацца ў „Зорцы", каляровыя перашлем Людміле Рублеўскай у Мінск, і самыя цікавыя трапяць у кніжку пра мышку Пік-Пік.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Алесь Бадак

# КАМАР

Ох і цяжкі
Камарыны лёс!
У яго ж
Такі даўжэзны нос!

Гэта вам не смешкі,
У аўторак
Пралятаў камар
Праз наш надворак.

Зачапіўся носам ён
За плот
І зваліўся
Прама ў агарод.

Патаптаў там
Шчаўе і цыбулю.
Добра,
Хоць не бачыла
Бабуля!

А інакш
Тады б ужо нямала
Ад бабулі
Камару
Папала!



# СЦЯЖЫНКА

— Ты куды, сцяжынка, нас
Завяла?
Паглядзі, далёка як
Да сяла!
— Завяла я вас
У лясок.
А ў ляску жыве
Шэры воўк.
У яго не зубы —
Зубішчы,
І не кіпцюры —
Кіпцюрышчы.
Шэры воўк
Не баіцца нікога.
Шэры воўк
Можа з'есці любога.
— Ах, не трэба расказваць
Далей.
Завядзі нас дадому
Хутчэй!
І наогул,
Наогул, з табою
Мы дружыць не збіраемся
Болей!
Лепш мы будзем хадзіць
Па сцяжынцы,
Што вядзе ў агарод
Па клубніцы!





*Моніку Аўсеню, Эмільку Мартынюк і Тамаша Аўсенюка яднае сардэчная сямейная дружба.* Фота Ж. Мартынюк.

# Вершы Віктара Шведа

### ЛІК МНОЖНЫ АД НЯДЗЕЛІ

Настаўнік вас пытаць прывык,
Каб як найбольш умелі.
— Хто з вас утворыць множны лік
Ад слова „нядзеля?"

Уміг з паднятаю рукой
Адазваўся Сёма:
— Падказвае тут розум мой:
Канікулы, вядома.

### ВЫРАТАВАЛЬНІК КАЛУМБ

— Ты разумнейшы, Яраслаў,
Ці ведаеш, хто менавіта
Ад голаду ўратаваў
Нашую Рэчпаспаліту?

— Вось не магу ніяк, Рыгор,
Я гэтай разгадаць загадкі.
— Дык гэта ж Калумб Хрыстафор
Амерыку адкрыў нам, братка.

### НА КАРАЧКАХ ХОДЗІЦЬ ДЗЕДКА?

Малая дачуся
Пытае мамусю:
— Чые боты, матуля?
— Вядома, дзядулі.
— А другія, мама?
— Дзядулі таксама.
— Мо дзедка Валодзя
На карачках ходзіць?

### ХЛЯБОК ЕЛА З КВЕТКАМІ

Мама, як заўсёды,
Снедае з дачушкаю.
Яна ўсе бутэрброды
Пасыпала пятрушкаю.

А калі ў прадшколлі
Была дзяўчынка з дзеткамі,
Сказала яна дзецям:
— Хлябок я ела з кветкамі.



# ПАЗНАЁМІМСЯ

Беларусь, 211030, г. Орша-10, вул. Міра, д. 47а, кв. 25, *Чыстабародава Наташа* (10 гадоў, хоча перапісвацца з дзяўчынкай).

*

Беларусь, 212002, г. Магілёў, пр. Пушкіна, д. 67, кв. 80, *Ішчанка Валеры* (12 гадоў, вучыцца ў VII класе).

*

Беларусь, 225610, Брэсцкая вобл., Лунянецкі раён, г.п. Мікашэвічы, вул. Чэрняхоўскага, д. 9, кв. 5, *Фёдарава Наташа* (10 гадоў).

*

Беларусь, 222214, Мінская вобласць, Смалявіцкі раён, в. Усяжа, *Касцючык Юля* (VI клас; жыве ў вёсцы, збірае паштоўкі, вельмі любіць сабак).

# Аб'ява

Штомесячнік для дзяцей „Бярозка" аб'явіў конкурс аб Максіме Багдановічу. На адрас „Бярозкі":

**220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 79**
**дасылайце свае вершы, апавяданні і думкі.**

**Старонка дзіцячай творчасці „Верасок" таксама чакае вашых твораў.**



# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

*

Настаўнік:
— Пятрусь, скажы адзін сказ.
Вучань:
Сабака гучна гаўкае на вуліцы.
— А карацей?
— Гаў!

*

— Мама, Аленка есць газету!
— Нічога страшнага. Газета ўчарашняя.

*

Маленькую дзяўчынку пытаюць:
— Хто ўсё бачыць, хто ўсё чуе, хто ўсё ведае?
— Суседка, — адказала тая.

*

— У тваёй лялькі няма купальніка?
— Ёсць, але мама надзела.

*

Маленькі П'ер вярнуўся са школы, а бацька яго пытаецца:
— Ну, расказвай! Як твая настаўніца?
— Мне спадабалася. Шкада толькі, што ў нас такая вялікая розніца ва ўзросце. *(В. Б.)*



# ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

## СІВАГРАК

Сіваграк, інакш сіваваронка — птушка сям'і сіваваронкавых, атрада ракшападобных. Жыве ў Еўразіі і Паўночна-Заходняй Афрыцы. На Беларусі звычайны пералётны від,



найбольш шматлікі на Палессі. Сіваграк жыве ў зрэджаных старых лясах, на ўзлесках, каля высечак, палян, прасек, трапляецца ў старых парках і гаях. Часта трымаецца ўздоўж шашэйных дарог, чыгунак, ліній электраперадач. Народная назва сіваграка — краска, сінюга. Сіваграк корміцца ў асноўным буйнымі насякомымі (жужалямі, хрушчамі, мядзведкамі, бронзаўкамі, дрывасекамі, конікамі і іншымі), зрэдку дробнымі пазваночнымі (яшчаркамі і іншымі). Колькасць сівагракаў скарачаецца з-за высечкі старых дуплаватых дрэў.

Даўжыня цела сіваграка — да 35 см, маса да 160 г. Апярэнне галавы, шыі, брушка і верхняя пакрыўныя пёры крыла зеленавата-блакітныя, спіна рыжавата-карычневая, ніжняя яе частка і падхвосце лілова-сінія. Сярэдняя пара рулявых пёраў хваста цёмна-бурыя, з ліловым напылам. Дзюба сіваграка моцная, сціснутая з бакоў, на канцы крыху кручкаватая. Каля асновы дзюбы жорсткія шчацінападобныя вібрысы.

Палёт сіваграка імклівы. Птушка любіць сядзець на слупах, правадах, сухіх галінах дрэў. Сіваграк прылятае ў канцы красавіка — пачатку мая. Голас — гучнае „краaа-краaа", „крэ-кра" або „рэк-рэк". Гнёзды сіваграк будуе ў дуплах дрэў, часцей без высцілкі. Кладка ў маі-чэрвені, з 4-6 белых яек, наседжванне 18-19 сутак. Птушаняты вылятаюць праз 26-28 сутак, некаторы час трымаюцца паблізу гнязда, пазней пачынаюць вандраваць. Сіваграк адлятае ў жніўні-верасні, зімуе ў Афрыцы.

# ВЕРШЫ ПРА РОДНУЮ МОВУ

### НІНА ШКЛЯРАВА

Мова мая!
Мой ратунак!..
Калі немаўляткай была —
Твой першы, найлепшы гатунак
З грудзей я матулі піла.

Гуляла ты ў ладачкі-ладкі,
Гудзела гліняным пеўнем...
Вялікі то быў пачатак
Запеву майго, напэўна.

Я чула, як пысаю цёлка
Расу на пялёстках студзіла.
Звінелі на промнях вясёлкі,
Садзіліся птушкам на крылы.

Сабраць бы ўсе фарбы і гукі
У адну непаўторную гаму!
Да сонца працягваю рукі
І ў голас гукаю: „Мама!.."

### ВЕРА ВЯРБА

Дарагія бясконца мясціны,
Ваш убор быў заўсёды такі:
Чырванеюць manісты рабіны,
Белы статак бяроз ля ракі.

Усё гаворыць тут роднаю мовай:
Ад вясенніх грымот да бароў,
Ад азёр і шумлівай дубровы
Да асенняй журбы жураваў.

Да якое ж крыніцы прыпасці?
У якія азёры глядзець?
Мне б пра вашае добрае шчасце
Свае шчырыя песні прапець!

### АНАТОЛЬ КАНАПЕЛЬКА

Адкрываю,
як свет,
нанова
беларускае
роднае слова,
нералівістае —
як каменьчык,
вясёлкавае —
як ручэй.
цёплае —
як агеньчык
добрых тваіх вачэй,
светлае — як маланка,
гнеўнае — як пярун,
ціхае —
як калыханка,
вечнае
як Беларусь!



# „БЕЛАСТОЦКІЯ МАЛЬВЫ' 91"

Ваяводскі цэнтр анімацыі культуры (ВЦАК) у Беластоку паведамляе, што 21 і 22 верасня 1991 г. у Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі адбудзецца Фестываль беларускай, літоўскай, расійскай і ўкраінскай песні пад назвай „Беластоцкія мальвы '91". Фестывалем апякуецца Міністэрства культуры і мастацтва, а яго арганізатарамі з'яўляюцца: Саюз польскіх аўтараў і кампазітараў ЗАКР, Міністэрства культуры і мастацтва, Ваяводскі цэнтр анімацыі культуры ў Беластоку і Аб'яднанне гульнявых прадпрыемстваў ЗПР.

„Беластоцкія мальвы '91" гэта фінал агульнапольскага конкурсу, які з'яўляецца мерапрыемствам, адпаведным Фестывалю польскай песні ў Віцебску — свята польскай культуры ў суседніх рэспубліках, асабліва чаканага ў польскіх асяроддзях.

У рамках фестывалю адбудуцца тры канцэрты:
— **21 верасня, а 17 і 20 гадз.** — конкурсныя канцэрты;
— **22 верасня, а 19 гадз.** — канцэрт лаўрэатаў.

У фестывальных канцэртах прымуць удзел вядомыя артысты польскай эстрады: Данута Станкевіч, Ялантa Яшкоўская, Аліцыя Маеўская і Алёша Аўдзееў. Рэжысёр канцэртаў - Адам Ганушкевіч. Музычнае афармленне - „Big Warsow Band" пад упраўленнем Станіслава Фялкоўскага.

**Дэталёвыя інфармацыі: ВЦАК, тэл. 416-414 або 418- 652.**
**Білеты прадаюцца:**

**— ВЦАК — вул. Кілінскага 8,**
**— „Орбіс" — вул. Жабя 20 і вул. Рынак Касцюшкі 15,**
**— Гарадскі дом культуры — вул. Легіянова 5.**
**( Каса кінатэатра „Форум".)**

**Дырэктар ВЦАК**

**мгр. Казімеж М. Дэркоўскі**




Мілае Сэрцайка! Мне 37 гадоў. Жыву з 12-гадовым сынком. Добра нам разам! Але...

Мужа я выгнала з дому, бо быў горкі п'яніца, а яшчэ лазіў па бабах. Праз нейкі час развяліся. Сыну тады было шэсць годзікаў. Мы з ім засталіся ў маіх бацькоў, а муж кудысьці выехаў. Пасля пачаў прысылаць аліменты.

Пакуль я жыла ў бацькоў, было мне не так маркотна. Пазбыліся мы толькі п'яніцы і гультая, а ўсе ж іншыя засталіся на месцах. Мама давала нам шмат цяпла, дбала пра майго сына і мяне.

І вось я атрымала кватэру. Мы з сынам перабраліся ў новы дом. Спачатку абсталёўвалася, а пасля засумавала па... мужчыне. Быў мне патрэбны, каб не адчуваць сябе самотнай вечарамі, каб было з кім некуды выйсці, каб было да каго адазвацца. У сына пачалі паяўляцца не толькі сябры, але і сяброўкі, а я была адна.

Патрэбны мне быў свабодны чалавек, а апынулася я ў абдымках жанатага мужчыны. Не быў ні занадта прыгожы, ні занадта прыстойны. Але ўмеў падабацца і быў надта ўважлівы ў адносінах да мяне і майго сына.

Расказваў, што жонку сваю ён не кахае. Проста быў калісь такі момант, што пераспаўся з ёю. Думаў па сваёй юнацкай наіўнасці, што цяпер ужо абавязкова мусіць з ёю ажаніцца. Як жа інакш? Ён жа пазбавіў яе дзявоцтва! Ну, і ажаніўся, а цяпер у іх трое дзяцей.

Не кахае яе, не кахае! А мяне абагатварае. Нарэшце сустрэў сваю! Дык я кажу, што павінен перайсці жыць да мяне, а ён тады — назад. Не можа расстацца са сваімі дзецьмі! А я не магу жыць так, як ёсць — хаваючыся па кутках, хілком ходзячы ў тэатр, каб, барані Божа, не сустрэць нікога знаёмага, ды ізноў сумаваць вечарамі ў хаце, калі ён не можа прыйсці да мяне.

І так справа цягнецца ўжо больш года. Пакуль што да скандалу не дайшло, ніхто яшчэ не данёс яго жонцы пра нас. Але хто ведае... Ёсць жа людзі, якія цешацца чужымі клопатамі. Могуць данесці. Я хачу, каб усё было легальна, але як падумаю пра яго дзяцей, якіх ён меў бы кінуць, калі б прыйшоў да мяне, дык мне моташна робіцца. Што тут зрабіць?

**Наталля**

Наталля! Добра, што ты ведаеш пра гэта: свайго шчасця на чужой крыўдзе не збудуеш. Сапраўды, шкада тых дзетак. Твой кавалер завязаў сабе свет без патрэбы. А мо тады і яе кахаў, ды толькі цяпер ужо паспеў забыцца.

Будзь з ім мілай, але паступова пачні адсоўвацца ад яго. Пастарайся выходзіць больш да людзей, бываць у кампаніі. Там напэўна сустрэнеш і іншых, якія, магчыма, дазволяць табе забыцца пра гэтага нешчаслівага ў суме чалавека. З такім нерашучым і раздвоеным я ружовай будучыні не бачу.

**СЭРЦАЙКА**




Дарагі Астроне! Снілася мне, што ў мяне на кухонных паліцах сядзела ў нейкай балеі белая гуска. Я надумала, што яна, відаць, хоча піць, але не надыйшла да яе, бо ж у яе ў балеі была вада. А гуска перакуліла гэту балею з вадой мне на падлогу. У мяне тады была якраз мая мама.

У другім сне мне снілася, што была я ў нейкім магазіне і хацела купіць свайму старэйшаму сыну ланцужок з крыжыкам. Але былі там таксама дрэсы па 250 зл. Я надумала, што куплю лепш гэтыя дрэсы. Але ж гляджу — а яны былі ўсе ў дзірках. І я вырашыла іх не купляць. Ізноў убачыла гэты ланцужок з крыжыкам, а ён такі прыгожы, бліскучы, як з золата. І я купіла сыну гэты ланцужок.

А яшчэ мне прысніўся сон, быццам мая свякруха на міліцыйную сумку свайго зяця хацела завязаць таксама ланцужок з крыжыкам, але нейкі ён быў забруджаны, чорны. Зяць не хацеў гэтага, дык свякруха павесіла яму ланцужок на шыю. Я хацела памацаць яго рукамі, але, калі дакранулася, дык на пальцах застаўся бруд.

Што могуць абазначаць мае сны?

**Рэната**

Рэната! Сны твае вельмі цікавыя, ды кожны з іх пацвярджае як бы адну ісціну: нешта парушыцца ў тваім сямейным дабрабыце, нешта сапсуецца і будуць бруды. Мяркуй сама!

Гуска, якая прадвяшчала б сямейны дабрабыт і добраўпарадкаванасць, перавярнула балею з вадою і заліла табе цэлую кухню. Можа гэта будзе звязана ў нейкай ступені з тваёй маці.

Ланцужок, калі б быў ён залаты, мог бы абазначаць поспех і багацце. Але ж ён толькі так выглядаў, але залаты не быў. Тым больш, што ты, калі дакранулася да ланцужка, які твая свякруха павесіла на шыю свайго зяця, убачыла на руках бруд. Бруд застанецца замест поспеху і прыбытку.

І дзіравыя дрэсы сведчаць аб нейкіх стратах у тваёй гаспадарцы.

**АСТРОН**

## НЕПАТРЭБНАЯ КАРУСЕЛЬ

Шашы за Бельскам у напрамку Нарвы, калі за вёскай Белая і Катлы павярнуць налева на Зубава, патрэбны невялікі рамонт. Зараз жа за Сакамі, не даязджаючы да Зубава, у асфальце ўбачыш дзіркі. Варта было б іх заляпіць. Калі едзеш машынай і паспееш мінуць іх — добра, а калі не — дык так падскочыш, што аж у галаве закружыцца. А што ўжо казаць, калі веласіпедам едзеш, а яшчэ вечарам, бо ўсяк даводзіцца ездзіць, дзень карацее. Дзіркі на дарозе небяспечныя. Бельскае дарожнае прадпрыемства прайшло рэарганізацыю, цяжкія часы насталі, але думаю, што засталіся людзі, адказныя за наладку дарог, і яны гэта паправяць.

**Ж. М.**









## ГРЫБЫ, ГРЫБЫ!

### РЫЖЫКІ СА СМЯТАНАЙ

На паўкілаграма рыжыкаў трэба ўзяць 1 лыжку масла, 1 шклянку 30-працэнтнай смятаны, 2 цыбуліны, соль, перац.

Абабраць цыбулю і нарэзаць яе тонкімі скрылёчкамі. Рыжыкі ачысціць, памыць, асушыць, палажыць у кастрюлю, перакладаючы цыбуляй, пасыпаць соллю, дадаць масла, заліць смятанай і тушыць пад накрыўкай, сочачы, каб яны не прыгарэлі. Рыжыкі тушыць каля паўгадзіны. Пад канец дадаць па смаку солі і перцу.

### СМАЖАНЫЯ ГРЫБЫ

На 1 кг грыбоў (баравікі, казлякі, падгрыбкі) трэба ўзяць 3 лыжкі мукі, каля 10 дэкаў шмальцу, 1 лыжку масла, соль, перац.

Грыбы пачысціць, старанна памыць, асушыць, абрэзаць карэньчыкі (выкарыстаць іх для супу, мяса або высушыць). Капялюшы грыбоў абварыць, кладучы ў крыху пасолены кіпецень, тады добра адцадзіць, памачаць у муку, палажыць на патэльню з разагрэтым тлушчам, падсмажыць з абодвух бакоў. Тады пасыпаць грыбы соллю і перцам, дадаць масла і ўставіць у гарачую духоўку. Няхай там пастаяць яшчэ з паўгадзіны.

### КАБАЧОК, ФАРШЫРАВАНЫ ГРЫБАМІ

На 1 кабачок трэба ўзяць паўкілаграма мешаных грыбоў (баравікі, казлякі, зялёнкі), 1 вялікую цыбуліну, 2 лыжкі шмальцу, соль, перац, 2 жаўткі, 3 лыжкі сцертага на тарцы жоўтага сыру, 2 лыжкі насечанай зялёнай пятрушкі, паўкілаграма памідораў, лыжку масла.

Грыбы перабраць, ачысціць, памыць і дробна нашаткаваць. Падсмажыць іх на тлушчы з цыбуляй, пасаліць, спырснуць вадой, крыху тушыць. Пасля дадаць соль і перац, жаўткі і сыр і перамяшаць. Пакаштаваць — грыбы павінны быць вострыя. Калі трэба, дадаць солі і перцу.

Памыты кабачок абабраць, перарэзаць уздоўж напалавіну, выняць з яго семечкі, а на тое месца пакласці падрыхтаваны грыбны фарш. Злажыць дзве напоўненыя фаршам палавінкі так, каб выглядала, што кабачок цэлы, змазаць яго маслам і ўставіць у гарачую духоўку. Кабачок пячэцца каля паўгадзіны. Тады памыць памідоры, абліць іх кіпетнем, зняць скурку, нарэзаць палосачкамі. Падрыхтаванымі памідорамі аблажыць кабачок, пасыпаць соллю і перцам, уставіць ізноў на некалькі мінут у духоўку.

Гатовы кабачок разразаць упоперак на порцыі.

**ГАСПАДЫНЯ**

АЛЕНА РУДАВА

## МУЖЧЫНА, ПАСЛУХАЙЦЕ!..

(гумарэска)

Мужчына, паслухайце, калі б на маім месцы зараз была Сафі Ларэн, ці адштурхнулі б вы яе, змагаючыся за магчымасць сесці ў аўтобус? А ў салоне ці павіслі б нада мной, ссунуўшы локцем на бок прычоску і размазаўшы касметыку, калі б гэта была не я, а цудоўная Сафі Ларэн? Мужчына, я прадбачу вашу іронію: „Вось дык параўнала сябе, шэрую мыш, з ёй, з італьянкай!..”

Але паслухайце, паслухайце! Я шэрая толькі звонку. Ды і якой мне быць, калі нават у цэнтральным універмагу яркую пляму сярод тавараў можна ўбачыць толькі ў аддзеле штучных кветак? Можа, і набыла б я неяк такі туалет, як у вядомай актрысы, але праз паўгадзіны язды ў грамадскім транспарце, які працуе па прынцыпу пыласоса, усё роўна стала б шэрай, як і ўсе астатнія. Прабачце тысячу разоў, але з ванны я выходжу нічым не горш Сафі.

Бясспрэчна, вы маеце рацыю, што не ўступаеце мне месца ў грамадскім транспарце. Бо і ў мужчын рабочы дзень заканчваецца ў той жа час, што і ў жанчын. А, як вядома, пасля змены чалавек вяртаецца вельмі стомленым, тут ужо не да палавых адрозненняў.

Я разумею, выручылі б мяне асляпляльная ўсмешка, пяшчотнасць шчок, бляск валасоў. Але вы ж ведаеце, што стаматалогія наша знаходзіцца на ўзроўні каменнага стагоддзя. Масаж мы, жанчыны, прымаем толькі на вобласць тулава, калі штурхаемся гадзінамі ў чэргах. А нашы прычоскі адпавядаюць нашай практычнасці: калі завіцца, дык надоўга, пакуль „хімія” не зносіцца.

Але, як бы нам дрэнна не было, мы ўсё роўна маем патрэбу ў вашай увазе, мужчыны. Бо і вы не змяніліся. Таму што, апыніся на маім месцы асляпляльная Сафі Ларэн, то я ведаю, прынялі б важны выгляд, напраглі б мускулы, надалі б голасу аксамітную мяккасць барытона, глянулі б з-пад прыспушчаных веек так, быццам паміж вамі ёсць нейкая таямніца, вядомая толькі вам дваім, і вымавілі б: „Калі ласка, праходзьце, сядайце. Вам зручна?” Эх!..

Пераклаў з рускай
*Валерый Бабей*







## У ФЯДОТА ЗАПЫТАЛІ:

— Што робіць ліса, калі хоча мець маленькіх лісянят?
— Тое самае, што і жанчына, калі хоча мець ліса.

*

— Ці нямецкая аўчарка можа стаць бульдогам?
— Так, калі набіць ёй морду і адсячы хвост.

*

— Кім лепш быць — дураком ці лысым?
— Лепш дураком: не так прыкметна.

*

— Калі наступіць усясветны голад?
— Калі кітайцы стануць есці відэльцамі.

*

— Чаму певень спявае ўсё жыццё?
— Таму, што ў яго многа жонак і ніводнай цешчы.

*

— Ці можа ў сабакі здарыцца інфаркт?
— Можа, калі стварыць яму чалавечыя ўмовы.

*

— Што самае каштоўнае ў жаночым малацэ?
— Тара.

*

— Што такое муж?
— Гэта намеснік палюбоўніка па гаспадарчых справах.

*

— Якая розніца паміж мужам і дырэктарам?
— Дырэктар ведае свайго намесніка, а муж — не.

## КАЛЕЙДАСКОП ЖАРТАЎ

**Скупы рыцар**

Малады Ангус правёў вечар са сваёй дзяўчынай. Вярнуўся дахаты запоўнач, аднак бацька яшчэ не спаў. Сядзеў бы тая хмара за сталом, а пабачыўшы сына, з асуджэннем паківаў галавою:

— Зноў швэндаўся са сваёю дзяўчынай?
— Ага, тата. А чаму ты такі прыбіты?
— Я сабе вось прыкінуў, колькі каштаваў гэты вечар.
— Не больш паўкроны, тата.
— Ну, гэта яшчэ невялікія затраты, — павесялеў бацька.
— Гэта ўсё, што ў яе было, — адказаў кавалер.

**Пазычаны долар**

— Пат, вось твой долар, які я ў цябе пазычыў на мінулым тыдні.
— Каб ты здаровым быў, Майк! Я ўжо пра яго й забылася.
— Ды ну! Чаму ж ты мне пра гэта раней не сказала?!

**Першы клас**

— Ты ўжо бачыў новую дзяўчыну Макцевіша?
— Не бачыў. Але ён мне казаў, што „першы клас” і што вечарам, адвозячы яе на таксі дахаты, ледзьве мог сачыць за лічыльнікам.

**Грошы ў дурня**

Ён: Грошы ў дурня доўга не затрымліваюцца.
Яна: Колькі ж у цябе яшчэ засталося?

**Шлях дахаты**

— Ты ўчора праводзіў вось тую прыгажуню з кіно дахаты?
— Ага.
— І далёка яна жыве ад кінатэатра?
— Так сабе, тры кіёскі з газіроўкаю і адна кандытарская.

З англійскай мовы пераклаў

**ПЯТРУСЬ КАПЧЫК**



*- Пеця, выходзь з вады! Не бачыш, што табе стала холадна?*

## СВАВОЛЬНІК

Гаспадыня злавіла на панадворку пеўня, палажыла яго на пянёк і сякераю адсякла яму галаву. Усяму гэтаму прыглядалася дзяўчынка з суседняга двара.

— Чаму вы так жорстка расправіліся з пеўнем? — запыталася яна ў гаспадыні.

— Паслухай, мая даражэнькая, — сказала гаспадыня. — Гэта быў ужо не певень, а свавольнік. Лазіў ён па чужых панадворках, падскубваў чужых курэй, а сваіх не пільнаваў.

Праз нейкі час на панадворак убягае гэтая ж дзяўчынка і крычыць да гаспадыні:

— Рыхтуйце пянёк і сякеру!

— Што здарылася? — пытаецца гаспадыня. — Ці зноў трапляецца нейкі свавольнік?

— Так, так! Свавольнік! — крычыць малая. — Толькі не певень, а ваш муж. Я на свае вочы бачыла, як ён падскубваў маю маму!

**Язэп Карпюк**

************************************************************




„Niwa”, ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

*Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*
*Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1991 r. upływa 20 sierpnia 1991 r.
2.Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.000 zł.
Cena prenumeraty miesięcznej:
- wrzesień - 10.000 zł.
- październik - 8.000 zł.
Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26.000 zł. Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.